PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (1990) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 3 ЛІПЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ВІЗІТ МЕНСКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

На запрашэнню Сейма з трохдзённым візітам пабывала ў Польшчы дэлегацыя народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Мэта візіту — абмен вопытам у рамках працы польска-беларускай міжпарламенцкай групы.

У Варшаве беларускія парламентары сустрэліся з віцэ-маршалкам Сейма Юзэфам Зыхам, з пасламі, якія працуюць у міжпарламенцкай групе і камісіі па справах нацыянальных меншасцяў. У апошні дзень візіту госці наведалі манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне і Беласток, дзе сустрэліся з мясцовымі пасламі ў Сейм.

У Беласток прыехалі: Раман Унучка — член Прэзідыума Вярхоўнага Савета і заадно старшыня бюджэтнай камісіі, Анатоль Вярцінскі — намеснік старшыні камісіі па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека, Міхал Слямнёў — старшыня камісіі па нацыянальнай палітыцы і справах СНД, а таксама старшы рэферэнт гэтай камісіі Алег Захарэвіч. Дэпутацкую дэлегацыю суправаджалі сакратар Пасольства РБ Уладзімір Каральчук і консул Ігар Хадасевіч. На сустрэчы з беластоцкімі парламентарыямі беларускіх гасцей прывітаў пасол Сяргей Плева. У яе ходзе гаспадары і госці абменьваліся думкамі наконт польска беларускага супрацоўніцтва, а міністр Адам Даброньскі выказаўся за як найхутчэйшае ажыццяўленне заключаных да гэтай пары пагадненняў і прынятых рашэнняў дзеля набліжэння абодвух народаў ды ажыўлення гаспадарчых і культурных адносінаў паміж абедзвюма краінамі.

Перад згаданай сустрэчай запланаваны быў візіт беларускай дэлегацыі ў рэдакцыю „Нівы". Апрача кіраўніцтва нашага тыднёвіка менскіх гасцей чакалі таксама прадстаўнікі беластоцкіх парламентарыяў. Сустрэча ў рэдакцыі пачалася са спазненнем, а размова пайшла ў бок агульнапарламенцкіх спраў, якімі цікавіліся беластоцкія госці рэдакцыі. Неўзабаве, аднак, трэба было спыніць размову, паколькі гаспадары чакалі гасцей з вячэрай у „Асторы".

☞ *Працяг на стар. 4*



*Летні вечар.*

<u>Беласточчына пасля выбараў</u>

## ЯК АДЧУВАЮЦЬ СЯБЕ ПЕРАМОЖЦЫ?

**Такое пытанне задаў я на другі дзень пасля выбараў ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ, які зноў выбраны ў Гарадскую раду Бельска-Падляшскага (узяў больш чым два разы галасоў за свайго контркандыдата) са спіска Беларускага выбарчага камітэта. Беларускі выбарчы камітэт з 8 раднымі з'яўляецца наймацнейшай сілай Бельскай кааліцыі (агулам 18 радных).**

— Перш за ўсё ад свайго і маіх калегаў імя сардэчна дзякую нашым выбаршчыкам. Апошнія выбары паказваюць, што калі наш беларуска-левы электарат выйдзе з дому, то можа мець вырашальны ўплыў на лёс горада. Неяк раней нашы людзі прытрымліваліся такой думкі — ці не ад каралёў з царамі гэта пайшло — што ўлада заўсёды чужая, дадзеная зверху. А цяпер, я б сказаў, абудзілася самаўрадавая свядомасць. Дыяшчэ завязалася сувязь між намі і нашымі выбаршчыкамі. З БВК у Гарадскую раду ўвайшло 7 старых радных. Я лічу, што гэта добра, бо за апошнія чатыры гады, будучы ў апазіцыі, мелі мы магчымасць прыглянуцца да механізму ўлады ў горадзе, пазнаць яго балячкі, слабыя месцы. Ведаем, што трэба паправіць, што змяніць.

— *Што менавіта?*

— Я асабіста хацеў бы ўвесці ў гарадскія Раду і Управу новы падыход да грамадзяніна, да ягоных клопатаў. Трэба напачатку сказаць сабе, што няма спраў малаважных, нават калі яны нам такімі здаюцца. Мой бацька-пенсіянер у Орлі, напрыклад, месяцамі думае, як запасціся на зіму дровамі, а камусьці ж гэта пакажацца зусім не праблемай.

Мы мусім кіравацца прынцыпам натуральнай (не вымушанай) талерантнасці для іншых. Будзем кіравацца таксама існуючымі законамі, якія б яны не былі, але адначасна ў рамках гэтых законаў трэба даць абсалютную свабоду для кожнай ініцыятывы грамадзян. Калі хтосьці мае нейкую ідэю і нічым яна не пагражае іншым, то няхай яе рэалізуе. Яшчэ такога чалавека трэба заахвоціць і, калі гэта магчыма, дапамагчы яму.

— *Увялі вы ў раду (як БВК) дакладна ж толькі сваіх чалавек, што і ў папярэднюю, але сітуацыя радыкальна змянілася. Паколькі раней былі вы наймацнейшай апазіцыйнай сілай, дык цяпер складаецца ядро пераможнай кааліцыі.*

— Гэта праўда, БВК мае найбольш радных з цэлай Бельскай кааліцыі. Такая сітуацыя кладзе на нас абавязак стаць яе вядучай сілай, каардынаваць яе працу. Мы гэтага свядомы і ад абавязку не адмаўляемся. У іншым выпадку мы проста ашукалі б людзей, якія выказалі нам свой давер у апошнюю нядзелю.

— *Ці вядомы ўжо персанальныя змены ва ўладзе горада?*

— Яшчэ не і не трэба вельмі з гэтым спяшацца, ані занадта тым узбуджацца. Яшчэ ж працуе старая управа, першае пасяджэнне новай рады склікае старшыня старой. Некаторыя справы вырашацца ўжо на гэтым пасяджэнні, але не ўсе і думаю, не першапланавыя. Новыя рад-

☞ *Працяг на стар. 3*

## БЕЛАРУСЬ ПАТРАБУЕ ЗМЕН

Артыкул гэты пішу пасля вяртання з Менска, на некалькі дзён перад прэзідэнцкімі выбарамі. Магчыма, што калі ён з'явіцца на старонках „Нівы" будзе вядомым прозвішча першага прэзідэнта Беларусі, але ніхто не ведае, ці стане ім чалавек зацікаўлены зменамі.

З шасці кандыдатаў рашучае пераўтварэнне палітычнай і эканамічнай сістэмы прапануюць толькі Зянон Пязьняк і Аляксандр Лукашэнка. Аднак кожны з іх зусім інакш бачыць будучыню Беларусі. Лідэр Беларускага народнага фронту даўно ўжо мае ясна акрэсленую канцэпцыю дзяржаўнасці з рыначнай эканомікай і поўнай палітычнай незалежнасцю ад суседніх краінаў. Праграму Лукашэнкі немагчыма акрэсліць. У Менску называюць яго беларускім Жырыноўскім. З выбарчай праграмы Лукашэнкі відаць, што найважнейшае для Беларусі — гэта змяніць 80 працэнтаў дзяржаўнага апарату. Адкуль маюць прыйсці новыя людзі, пакуль што невядома.

Усе сродкі масавай інафармацыі — кантраляваныя ўрадам і вядуць нахабную прапаганду ў падтрымку толькі аднаго кандыдата, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Не ведаю, як у грамадзян Беларусі, але ў палякаў такая прапаганда выклікала б зусім адваротныя рэакцыі. З выказванняў шматлікіх асоб з розных асяроддзяў вынікае, што абрыдла яна нават цярплівым беларусам. Але вынікі выбараў пакажуць, як было ў сапраўднасці.

Беларусь гэтым часам патрабуе змен не толькі палітычных, хаця з іх усё пачынаецца. Вобраз, які можна пабачыць зараз за мяжой, пераехаўшы гранічны пераход у Кузніцы, выклікае адразу пытанне: чаму так ёсць, чаму ад некалькіх гадоў ніхто не зацікавіцца працай гэтых, усё яшчэ савецкіх, мытнікаў і пагранічнікаў? Чэргі па 15 кіламетраў, цесната, шэрасць і бруд, адсутнасць туалетаў, кранаў і ўсялякай інфраструктуры, якая кожнай нармальнай дзяржаве дае вялікія грошы, для мяне зусім незразумелыя. На беларускай мяжы робіцца ўсё, каб чалавек не захацеў другі раз яе перасякаць. Вяртаючыся рэйсавым аўтобусам у Беласток, невядома чаму трэба стаяць 8—15 гадзін каля брамы, бо такая воля міліцыянта, які яе пільнуе. Не кожны можа даць яму „ў лапу", не кожны можа нават здагадацца, што трэба даць хабар, каб атрымаць дазвол рушыць у напрамку мытні. Невядома чаму трэба плаціць нейкі экалагічны падатак — 2 долары ад асобы. Зусім невядома

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Існуе спецыяльная ўрадавая праграма дапамогі беларусам у Польшчы, Літве і Латвіі, — сказаў міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.*

*(Голас Радзімы, н-р 19)*

Найважнейшае, каб была праграма, а ўсё іншае менш важнае, уключна з яе рэалізацыяй.

* * *

*Рынуліся на Беларусь польскія місіянеры з крыжамі, са злотымі і доларамі. Выглядае, што Беларусі не лічаць яны як дзяржавы. На жаль, нашая інтэлігенцыя садзейнічае як палякам, так і расейцам. Не лічыцца з намі, сваім народам, нават кнігі пра каханне перасталі друкаваць на беларускай мове, не гаворачы ўжо пра нашу гісторыю. Мы — сапраўдныя самаеды!*

*(Пагоня, н-р 17)*

* * *

*Białoruskie rolnictwo jest lepsze od polskiego. Wszystkie pola są zaorane i obsiane. Nigdzie nie widać ani kawałka ugoru. Nawet grunt przylegający do słupów wysokiego napięcia, który nawet najlepsi polscy gospodarze zostawiają w spokoju jest zaorany do ostatniej skiby. Białoruscy chłopi w ocenie stanu rolnictwa są jednak odmiennego zdania. Kołchoźnicy nie otrzymujący na czas wynagrodzenia za dostarczane plony muszą kraść część wytworzonych przez kołchoz plonów. Złodziejskie nadwyżki mięsa, mleka, warzyw, ziemniaków sprzedają na targach w miastach, które są zawalone żywnością. Najbardziej ekskluzywną część nadwyżki — śmietanę, sery, twarogi eksportuje się za granicę. Głównie do Rosji i Polski. Wcześniej żywili głównie Wilno, obecnie docierają do Moskwy.*

*(Najwyższy Czas, nr 24)*

* * *

*Patrząc na listy kandydatów na radnych w Hajnówce, chciałoby się tylko westchnąć i zapłakać. Nie dajmy się zwariować. Odrzućmy kombinatorów i ekstremistów. Rada obecna musi być nasza,* — пісаў суперпатрыёт з Гайнаўкі, перапалоханы перспектывай выйгрышу беларусаў падчас самаўрадавых выбараў.

*(Kurier Poranny, nr 113)*

Kiedy Kali wygrywać to być dobrze, kiedy Kali przegrywać to być źle.

* * *

*Janusz Zaorski, były prezes Radiokomitetu, zamierza nakręcić film o sobie, w kilkunastu odcinkach. W dodatku ma to być serial opłacony przez telewizję, a więc z naszych podatków i opłat abonamentowych.*

*(Gazeta Współczesna, nr 110)*

Пан прэзас будзе рэжысёрам, акцёрам, сцэнарыстам у адной асобе. Каб толькі не пакрыўдзіў сябе надта нізкімі ганарарамі. Не кожная адзінка можа пераўтварыцца ў тройцу.

* * *

*Helmut Kohl oświadczył Borysowi Jelcynowi, że Rosja jest największym sąsiadem Niemiec. Kohl tak mocno zaprzyjaźnił się z Jelcynem, iż zapomniał o istniejącej między sąsiadami Polsce.*

*(Wprost, nr 22)*

А мы так часта чуем, што Расія — найбольшы сусед Польшчы. Польска-расейскае сяброўства, відаць, дазваляе забываць пра існаванне Беларусі.

* * *

*Kiepsko, szto dzietki haworać pa-polsku. Baćki u chacie ad maleńkaha wuczać polskaho, chacia samyja nie umiejuć. I ja na relihii u Szymkach hawaru i pa-biełarusku, kab paczuli rodnuju mowu, i pa-polsku, kab zrazumieli,* — сказаў настаяцель Ялоўскага прыхода айцец Яўген Канаховіч.

*(Czasopis, nr 6)*

Прыдалося б у Беластоку пару такіх святароў, якія да дзетак прынамсі загаварылі на беларускай мове.

* * *

*Алесь Баршчэўскі, вядомы паэт, ганаровы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы сказаў, што прагне найперш падзякаваць таварыству „Радзіма" ад імя беларускіх пенсіянераў у Польшчы і ад імя беларускіх дзетак, якія адпачывалі ў піянерскіх лагерах. А перад усім дзякуем, — прадаўжаў Баршчэўскі, — за дапамогу ў будаўніцтве Беларускага музея ў Гайнаўцы, бо ў ім ад фундаментаў да даху — усюды ўклад „Радзімы". Нас часта палохаюць, што вы маеце дрэнную ідэалогію, але мы ўжо 10 гадоў супрацоўнічаем з вамі.*

*(Голас Радзімы, н-р 19)*

* * *

*Kręgi kościelne nie darzą seks-shopu specjalną sympatią. Dla młodzieży kojarzy się on jednak z wolnym rynkiem, demokracją, szacunkiem dla podstawowych potrzeb człowieka.*

*(Kurier Poranny, nr 113)*

* * *

*Opieka duchowa i wychowanie religijne żołnierza jest szczególnym obowiązkiem Kościoła,* — сказаў архіепіскап Беластоцка-Гданьскі Сава падчас інаўгурацыі Праваслаўнага вайсковага ардынарыята.

*(Gazeta Współczesna, nr 111)*

* * *

*W Białymstoku we wszystkich kościołach odczytano komunikat Kurii Arcybiskupiej, iż Katolickie Liceum Ogólnokształcące nie podlega instytucjom kościelnym. W komunikacie dodano, że katolickie z nazwy liceum jest z ducha antykatolickie. Podobno poszło o nauczanie biologii i fizyki. Co nie dziwi. Fizyka zawsze była nauką bardzo podejrzaną.*

*(Polityka, nr 21)*

У 50-х і 60-х гадах ад Уладзівастока да Эльбы падазронай лічылі навуку, якая называлася кібернетыкай.

* * *

*Sprzedawane w Polsce warzywa i owoce są bardzo bogate w ołów, azotany, kadm, miedź i inne związki.*

*(Wprost, nr 22)*

* * *

*Hołynka przed 1939 r. była gminną wsią w powiecie augustowskim. Obecnie jej mieszkańcy, w zdecydowanej większosci Polacy, są formalnie obywatelami Białorusi.*

*(Gazeta Współczesna, nr 112)*

Гэта значыла б, што жыхары Галынкі нефармальна з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы. Рэвізіянізм называецца цяпер „распаўсюджваннем гістарычнай праўды".

# З мінулага тыдня

**У Беластоку** ў самаўрадавых выбарах выйграў правы блок „Адзінства", які будзе мець 26 радных у Гарадской радзе з 50 дэпутатаў. Блок „Левыя" атрымаў 10 дэпутацкіх мандатаў, Унія вольнасці — 8, Выбарчы камітэт праваслаўных — 3 і незалежны камітэт „Наш горад" — 3.

**Выбарчы камітэт праваслаўных** у беластоцкай Гарадской радзе прадстаўляць будуць: **Антон Мірановіч** — навуковы супрацоўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта, намеснік старшыні БДА, **Пётр Бурак** — старшыня Беластоцкай гандлёвай базы будаўнічых матэрыялаў і **Мікалай Ваўранюк** — намеснік старшыні Праваслаўнага брацтва.

**У Бельску-Падляшскім** на 28 дэпутацкіх мандатаў 18 заваявала Бельская кааліцыя, у саставе якой знаходзіўся Беларускі выбарчы камітэт *(размову з паўторна выбраным радным Васілём Ляшчынскім чытайце на стар. 1)*.

**У Гайнаўцы** на 28 месц у радзе 18 мандатаў заваявалі кандыдаты, вылучаныя Грамадска-дэмакратычнай выбарчай кааліцыяй і Беларускім выбарчым камітэтам, а таксама прафсаюзамі завода „Фурнель". Астатнія радныя балатаваліся як незалежныя.

**Дэлегацыя дэпутатаў гарадскіх саветаў Віцебска, Гродна і Магілёва** па запрашэнню Фонду падтрымкі лакальнай дэмакратыі „Дыялог" пабывала ў Беластоку. У час знаходжання ў нашым горадзе госці сустрэліся з уладамі Беластока і ваяводства, знаёміліся з працай Гарадской рады, наглядалі за ходам муніцыпальных выбараў.

**Латышскі парламент** прыняў супярэчлівы закон аб грамадзянстве, які ў значнай ступені абмяжоўвае правы нелатышскага насельніцтва краіны, перш за ўсё расейцаў.

**Польская секцыя Радыё Вольная Еўропа** апошнюю перадачу з Мюнхена выпусціла ў эфір 30 чэрвеня. У Познані адбылася ўрачыстасць развітання журналістаў гэтай радыёстанцыі са слухачамі. Цяпер перадачы РВЕ ў зменена́й форме перадаюцца з Варшавы.

**На пасяджэнні Сената** сенатар Тамаш **Раманчук** (СЛД) даў заяву, у якой патрабаваў прысвоіць праваслаўнаму палявому ардынарыю архіепіскапу **Саву** воінскае званне генерала брыгады. — Адтэрміноўка гэтай справы пасля нядаўняга аднаўлення дзейнасці Праваслаўнага ардынарыята ў Войску Польскім прычыняецца да таго, што праваслаўныя адчулі сябе прыніжанымі, — сказаў сенатар з Сувальскага ваяводства. За існуючую сітуацыю абвінаваціў ён прэзідэнта і „сілы, якія ўплываюць на яго рашэнні". Сенатар паясніў, што меў ён на думцы „чорныя сутаны". Пры нагодзе напомніў ён, што каталіцкі палявы ардынарый **Лешэк Славой Глудзь** мае чын генерала дывізіі.

**Краёвая рада радыёвешчання і тэлебачання** паведаміла аб намеры стварыць чарговы рэгіянальны тэлецэнтр. Дванаццаты такога тыпу цэнтр у краіне паўстане ў Беластоку і сваёй дзейнасцю ахопіць паўночна-ўсходнюю частку Польшчы. Узнікненне тэлецэнтра ў Беластоку створыць магчымасць шырэйшага доступу да публічнага тэлебачання нацыянальным меншасцям і дапаможа палякам, якія жывуць за ўсходнімі межамі краіны. Канчатковае вырашэнне будзе залежыць ад Міністэрства фінансаў і ўправы суполкі TVP.

**Падпальшчык царквы на Святой Гары Грабарцы Ян Сабескі** не вярнуўся з пропуску ў турму і з'явіўся на радзіме — у гміне Мельнік. У той час паліцыя атрымала паведамленні аб узломах у магазіны і кватэры ў ваколіцах Нурца, Мельніка і Сямяціч. Жыхары адной з вёсак заўважылі вязня ў апусцелых будынках і нават прабавалі злавіць яго, але злачынца паспеў уцячы цераз дах. Паліцыя вядзе пошукі недысцыплінаванага турэмшчыка. Падпальшчык у мінулым годзе быў прыгавораны да 12 гадоў зняволення.

**На чыгуначным пераездзе ў Арэхвічах** каля Бельска-Падляшскага рэйсавы аўтобус папаў пад дрызіну. У выніку катастрофы пацярпелі дзесяць пасажыраў аўтобуса, з ліку якіх сем чалавек апынуліся ў бальніцы. Прычынай дарожнага здарэння была неасцярожнасць шафёра аўтобуса.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Беласточчына пасля самаўрадавых выбараў.
- Рэпартаж Г. Кандрацюк з Крынчкі.
- Творчасць "белавежцаў" у ацэнцы праф. Ул. Гніламёдава.
- Штодзённыя праблемы бурмістра Кляшчэлеўскай гміны.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### „Свабода" не здаецца

23 нумар „Свабоды", хоць і з пэўным спазненнем, усё-такі выйшаў. Зразумела, не ў Доме друку, які аднабакова парваў дагавор, але ў іншым выдавецтве. „Белсаюздрук", па вуснаму загаду міністэрства сувязі ды мастацтва і друку, спачатку адмаўляўся прыняць газету ў сваю сістэму распаўсюджвання, але паколькі ў нізавыя структуры не пайшла пісьмовая забарона, тыя на другі дзень згадзіліся ўзяць меншую колькасць экземпляраў. Галоўны рэдактар „Свабоды" Ігар Германчук клопаты газеты тлумачыць выбарчай прэзідэнцкай кампаніяй і заяўляе: „Не дадзім ім асалоды, каб газета „Свабода" не выходзіла. Мы прыкладзем неверагодныя намаганні, але надрукуем і наступны і ўсе астатнія нумары".

### Шоў з Кебічам

Відаць, з мэтай падмацавання свайго іміджу ў грамадстве, Вячаслаў Кебіч выступіў разам з вядомым расейскім акцёрам Аляксеем Баталавым (м. інш. роля Барыса ў кінафільме „Ляцяць жураўлі") у ток-шоў „Кар'ера" — перадачы расейскага тэлебачання — у ходзе прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Героі праграмы адказвалі на пытанні гледачоў, праходзілі жартаўлівыя тэсты і нават гулялі ў настольны хакей. Побач забавы былі і сур'ёзныя разважанні пра лёс, жыццё, сімпатыі і роздумы пра будучыню дзяржаў.

### Паклёп на Шушкевіча

У трох буйнейшых рэспубліканскіх газетах „Знамя юности", „Рэспубліка" і „Советская Белоруссия" быў апублікаваны артыкул „Беларусь цяжарная першым Прэзідэнтам", у якім Вячаслаў Кебіч называецца „новым беларускім Машэравым", а аб Станіславе Шушкевічу напісана, што ён сын паляка-католіка і польскай яўрэйкі, адзін з удзельнікаў „тайнай" белавежскай вячэры, які разам з апазіцыяй укараняў нацыяналізм і русафобію. Спасылка рабілася на галандскі часопіс „Амстэрдам-кур'ерэ". Юрый Рабчук — прэс-сакратар Станіслава Шушкевіча, афіцыйна паведаміў у Цэнтральную камісію па выбарах прэзідэнта, што на запытанне, зробленае ў галандскім пасольстве ў Варшаве, яны атрымалі адказ: такога выдання ў іх краіне не існуе і ў галандскім друку падобных публікацый не было. У сувязі з гэтым было прад'ўялена патрабаванне абвергнуць апублікаваны матэрыял, таму што ён прыніжае годнасць і гонар Станіслава Шушкевіча.

### Вяртанне Шагала

Вялікі мастак Марк Шагал назаўсёды вярнуўся ў родны Віцебск. Ды не адзін, а з кампаніяй markрознастылёвых таленавітых мастакоў з усяго зямнога шара. У Віцебску прайшоў першы міжнародны пленэр імя Марка Шагала. Раней пра Марка Шагала партыйныя ідэолагі забаранялі гаварыць і таму для многіх цяперашняе лета — час першага знаёмства і з самім славутым мастаком, і з віцебскай школай, якая дала свету не толькі імёны Пэна, Шагала, Фалька, Малевіча, але і новыя накірункі ў развіцці мастацтва XX ст. У віцебскім пленэры прынялі ўдзел 42 мастакі з 20 краін свету. Прывітанні ўдзельнікам прыслалі прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан і выдатны музыкант Мсціслаў Растраповіч.

### Дамова з СНД

У Менску было падпісана пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Садружнасцю Незалежных Дзяржаў аб умовах знаходжання Выканаўчага Сакратарыята СНД на тэрыторыі Беларусі. Згодна дакументу Выканаўчы Сакратарыят атрымае статус міжнароднай арганізацыі, а людзі, якія працуюць у ім, стануць чыноўнікамі міжнароднага рангу.

### Яшчэ адна партыя

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя партыі падтрымкі СНД. Будзе гэта партыя парламенцкага тыпу, што дзейнічае ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі і не толькі на тэрыторыі рэспублікі. Асноўныя мэты новай арганізацыі — умацаванне механізму ўзаемадзеяння і развіцця СНД, наданне ім дзейснага, рэальнага характару і замацаванне каардынацыйнага цэнтра СНД за горадам Менскам.

### Расслоенасць пашыраецца

Працягваецца пашырацца сёлета бездань паміж беднымі і багатымі слаямі насельніцтва рэспублікі. Апошнія траццяць у сярэднім па 100 долараў у месяц на кожнага члена сям'і, прытым на харчаванне ідзе ім толькі 20% грошай, а на іншыя тавары — 63%. Абсалютная большасць сярэдніх беларусаў мае па 15—20 долараў у месяц, з якіх 60% ідзе на прадукты харчавання.

### Нашэсце зладзеяў

Незвычайнага віду марадзёрства напаткала Пінск. Нашэсцю зладзеяў падвержаны літаральна ўсе новыя будоўлі. Вырываюцца дзверы і вокны, дастаецца шкло і замкі, а на плошчы па вуліцы Кляшчова ўжо ўкрадзена каля 400 жалезабетонных блокаў са стужачнага фундамента пад будучы гандлёвы цэнтр. Крадзеж на 50 млн. рублёў — гэта страта канцэрна „Палессеводбуд", якому на дадатак сталі масава раскрадаць пясок, нарыхтаваны для забудовы квартала дамамі сядзібнага тыпу.

# АНГЛІЙСКАЯ БЯДА

Нядаўна тэлебачанне паведаміла, што прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мэйджэр намерваецца выкараніць жабрацтва ў сваёй дзяржаве. Напачатак гэтая вестка крыху мяне здзівіла, што ў такой багатай краіне, як Злучанае Каралеўства ёсць жабракі, потым аднак уцяміў, што Англія была калыскай капіталізму, а ў капіталізме, як вядома, усё ёсць — у тым ліку і жабракі. У даўнейшы даваенны час было іх багата і ў нас. У нашым пасляваенным грамадстве, якое дзесяцігоддзямі будавала, ахоўваючы беднякоў, сацыялізм, наяўнае жабрацтва не існавала, а выпадковае спатканне з жабраком выклікала ў людзей спагаду і неблагую міласціну. У 60-х гадах у сталіцы нашай дзяржавы, Варшаве, у яе самоусенькім цэнтры на Новым Свеце непадалёку Іерусалімскіх алеяў жабраваў бязногі калека. Гэтым заняткам утрымоўваў ён жонку з каханкам, адно сваё і трое каханкавых з жонкай дзяцей. У пачатку 70-х гадоў, калі геркаўскае кіраўніцтва ўзялося за пабудову яшчэ большага, чым пры Гамулу, сацыялізму, жабрак гэты знік з вуліцы.

У нашыя сённяшнія, 90-я гады, пасля таго як сацыялізм звёў вартасць працы амаль да нуля, вярнуўся стары капіталізм і паказаў сваё аблічча не толькі ў выглядзе багатых паліц у крамах, але таксама нябачнага але рэальнага беспрацоўя. І хаця сацыяльнае забеспячэнне не адменена, усё-такі маёмасная расслоенасць грамдства павялічылася і паралельна з багаццем да адных, завітала бяда да кашалькоў, каструляў і страўнікаў другіх. Крайняя беднасць — гэта той грунт, з якога можа вырасці жабрацтва. Паявілася яно і ў нас. Спачатку былі гэта „турысты" з Румыніі, якія пасадзілі сваіх жанчын-абадранак і нахабных дзяцей на найбольш людных тратуарах. Цяжка ўгадаць, ці ў сваіх, бяднейшых ад нашага, грамадствах, былі яны найбяднейшымі; здаецца мне, аднак, што выехалі толькі тыя, якія мелі за што выехаць, а там, у Румыніі, асталіся тыя, якім не хапае не толькі на білет. Следам за экзатычнымі іншаземцамі жабраваць узяліся і свойскія туземцы. У Беластоку на Рынку Касцюшкі шпацыруе пажылая маларослая жанчына, якая зачапляе прахожых і просіць грошай. Ці не хапае ёй на хлеб? Людзі гавораць, што ў яе неблагая пенсія і дзеткам сваім дапамагла яна паставіць два асабнякі. Аднойчы ў дзверы маёй кватэры пастукаў 60-гадовы з выгляду мужчына. Сказаў, што згарэла яму ўся гаспадарка ды яшчэ іншых 70 дамоў у вёсцы „Залессе" ў Чаромхаўскай гміне і папрасіў грошай. Хлусня была аж надта наяўнай, каб адмовіць ягонай просьбе. Тады ён загнуў з другога, канфесійнага боку і спытаў ці магу я не дапамагчы каталіку. Паколькі канкардат паміж Польшчай і Ватыканам яшчэ не ратыфікаваны, палічыў я вераывызнанне не нейкім грамадскім рангам, а толькі чыста асабістай справай і адправіў „госця" з нічым. Дарэчы, ад знаёмых даведаўся, што „гарыць" ён ужо некалькі гадоў. Зусім нядаўна, у адну нядзельную раніцу на аўтобусным прыпынку ў Гайнаўцы ўвайшла ў аўтобус трыццацігадовая дзеўка і пачала нахабна дамагацца ад пасажыраў па пяць тысяч „на дапамогу сваёй хворай маці". Выглядала яна аднак так, што грошы былі відаць патрэбны не маці, а ёй на вядомае ўсім ранішняе „лякарства". Прыведзеныя прыкладаў нахабнага жабрацтва хопіць, каб не ўспамінаць пра тых, якія „жабруюць" насіллем. Варта звярнуць увагу, што наяўным жабрацтвам людзі займаюцца не ў сваіх, а ў чужых асяроддзях, у якіх нічога невядома пра іхнюю сітуацыю і паводзіны. На пачатку 80-х гадоў, калі паліцы ў нашых крамах „упрыгожвалі" толькі бутэлькі з воцатам, многія, цалкам добра, як на нашыя ўмовы, забяспечаныя польскія сем'і пісалі ў заходнееўрапейскія дабрадзейныя арганізацыі, разлічваючы на неблагія дары. Адзін бамбіза з адной пушчанскай вёскі, які з-за свайго лодарства не мог утрымацца на ніякай рабоце, пісаў сваякам у багатым замежжы, што ў нас страшэнная бяда. І міласцівыя сваякі прысылалі грошы, якія той неадкладна заносіў у „гасподу".

Вышэйнапісанае зусім не абазначае, што патрабуюць дапамогі толькі нейкія лайдакі. Большасці з нас жывецца нялёгка, асабліва ў апошні час. Ёсць сярод нас людзі, якія ў сапраўднасці патрабуюць дапамогі. Знаходзяць яе, праўда — не заўсёды дастатковую ў сваіх асяроддзях ці ў гуманітарных арганізацыях; на вуліцу аднак не выходзяць, магчыма, што не маюць на гэта часу або папросту гонар ім гэтага не дазваляе.

Час ад часу адбываюцца ў нас нейкія выбары. Усё новыя і новыя кандыдаты на высокія крэслы абяцаюць людзям аўтамабілі замест веласіпедаў. Многія з іх клапоцяцца пра гэтыя аўтамабілі, але галоўным чынам для сябе. Цяжкая сітуацыя радавых людзей застаўляе многіх самастойна выпрацоўваць свае прыходы без далейшай аглядкі на шчодрую да нядаўна дзяржаву. Не ўсім аднак сумленная праца прыносіць гонар. Аматары лёгкай нажывы бываюць усюды: і ў нас, і ў Англіі. І пэўна пра такіх гультаёў задумаў паклапаціцца прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мэйджэр.

**А. ВЯРБІЦКІ**




## НА ТОЙ СВЕТ ВАЗЬМУ ГАРМОНІК

*Мікалаю Пракапюку з вёскі Трывежа прысвячаю*

Колькі ж страшэннай смерці джала
Пасля ліхой вайны падзей
Нам з вёсак назаўжды забрала,
Ці акалечыла дзяцей!

Той дзесяцігадовы Коля,
Што кароў пасвіў каля хат,
Хацеў размантаваць у полі
Вайной пакінуты снарад.

І вынік гэтага вядомы:
Патухнуў назаўсёды зрок
І наступілі ног узломы,
На старасць цяжка зрабіць крок.

Ён часта моліцца да Бога:
— Ты патушыў вачэй агні
Яшчэ ж у хлопчыка малога —
Мне на тым свеце зрок вярні.

Чорным яму заўжды свет белы,
Сэрцам адшуквае людзей,
Рукамі зведаў жонкі цела,
Не знае колеру вачэй.

Ён ласкай выпесціў дачушку,
І дарагі яму стаў зяць,
І навучыўся ўнукаў гушкаць,
Песні вясёлыя спяваць.

У рукі ён бярэ гармонік,
У ім яго жыцця сакрэт,
І смутак ад сябе прэч гоніць,
Стаецца весялейшым свет.

Хоча гармонік свой вясёлы
Ён на той свет забраць з сабой,
Каб там заўжды іграць анёлам
І ўсёй епархіі святой.

**ВІКТАР ШВЕД**

*Да ўвагі моладзі!*

## РЭЙД „БАЦЬКАЎШЧЫНА'94"

„Бацькаўшчына" — гэта рэйд беларускай моладзі, арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў. Праводзіцца ён ва ўсходняй Беласточчыне, а яго мэта — паказаць моладзі самыя прыгожыя мясціны рэгіёна і наблізіць ёй родную — багатую і цікавую — гісторыю.

Сёлета рэйд пачынаецца 4 ліпеня 1994 г. у Суражы на аўтобусным прыпынку перад абедам (паміж 10 і 12). Прадугледжваецца наступны маршрут:

1 дзень: Сураж, Канцавізна, Срадзінскія, Дакторцы, Страбля (начлег);

2 дзень: Плюцічы, Храбалы, Рыпнева, Каморы, Плёскі (начлег);

3 дзень: Кашарка, Войшкі, Рыбалы (начлег);

4 дзень: Канюкі, Ступнікі, Кожына, Ляхі, Кленікі (начлег);

5 дзень: Сапава, Падрэчаны, Чыжы, Збуч (начлег і заканчэнне рэйду).

Заахвочваем узяць з сабою сваіх прыяцеляў, гарантуем цудоўнае надвор'е, незабыўныя прыгоды і поўны адпачынак ды прыгадваем узяць з сабой спальны мяшок, матрац, нейкія харчы і трохі грошай.

**АРГАНІЗАТАРЫ**

## НЕПАЖАДАНЫЯ СУСЕДЗІ

Камар-піскун — гэта пра яго ідзе гаворка — вельмі добра адчувае сябе там, дзе ёсць стаячая вада — у падвальных збудаваннях, звязаных з гарадскімі камунікацыямі, і перш за ўсё ў падвальных памяшканнях жылых будынкаў. Калі да гэтага дадаць, што падвалы ніколі адразу не высушваюцца пасля аварый водаканалізацыйных труб, што вокны і дзверы ў іх пастаянна расчынены або выбіты, то ўмовы для развядзення камароў ствараюцца ідэальныя.

Самкі ў канцы лета звычайна не гінуць, а хаваюцца на зімоўку ў розныя прахалодныя месцы: дуплы, норы, склепы... У гарадах жа, жывучы ў цёплых падвалах, яны застаюцца актыўнымі ўвесь год, а пры асабліва спрыяльных умовах могуць размнажацца ў вялікай колькасці нават у зімовыя месяцы.

Камары могуць харчавацца крывёй розных жывёл і птушак. Вельмі ахвотна і актыўна нападаюць яны і на чалавека. Звычайна гэта здараецца ноччу. Самка, напіўшыся крыві, праз пэўны прамежак часу адкладае на паверхні стаячай вады 100—200 яек. Лічынкі лепш і хутчэй развіваюцца ў забруджанай вадзе, асабліва ў каналізацыйных водах. Аптымальная тэмпература для развіцця ўсіх чатырох стадый лічынак і стадыі кукалкі +17—22 градусы. Камары добра могуць развівацца нават у поўнай цемры. Усё развіццё ад яйка да з'яўлення дарослага камара ў залежнасці ад тэмпературы ў памяшканні праходзіць за 10—20 дзён.

Потым яны разлятаюцца па ўсяму падвальнаму памяшканню, праз лесвічныя клеткі і вентыляцыйныя хады пранікаюць у кватэры. У цёплую пару камары з падвалаў вылятаюць на вуліцу і трапляюць у кватэры праз адкрытыя вокны і балконныя дзверы.

З усяго сказанага вынікае і методыка барацьбы супраць камароў. Перш за ўсё ўтрымліваць у добрым санітарным стане падвал. У халодную пару час ад часу трэба праветрыць падвалы і змагацца супраць камароў холадам. Калі ўсё ж у кватэру яны залятаюць, то трэба ўжыць які-небудзь з аэразоляў. Можна яшчэ парэкамендаваць зацягнуць форткі і фрамугі, а таксама вентыляцыйныя адтуліны на кухні і ў ванным пакоі кавалкам марлі або сетачкай з дробнымі клетачкамі. Пры магчымасці наладзіць скразняк.

Сверб ад укусаў пройдзе, калі пацерці гэта месца растворам соды (палавіну чайнай лыжкі на шклянку вады) альбо сокам з пятрушкі ці цыбуліны. Камар не любіць запаху зелені памідораў і бульбы.

## ЧАМУ ЗНІКЛІ НЕЎРЫ?

„...Штогод кожны неўр пераўтвараецца на некалькі дзён у ваўка, а потым набывае ранейшае аблічча".

*(Паводле звестак Герадота аб неўрах — народзе, які жыў некалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі).*

Беласточчына.
Вечар. Восень.
Сядзім за сталом
У тутэйшай беларускай сям'і,
Размаўляем пра нашы
Нялёгкія справы.
— Можа, хоць вы тут
Жывяце ўсе дружна? —
Наіўна пытаюся
У гаспадара.
Ён адказвае
З безнадзейнаю стомаю:
— Дармо, братка,
Грызёмся,
Як ваўкі ў Белавежы...

**ВІКТАР ШУТКЕВІЧ**
**(са зборніка „Сімвал веры")**

* * *

Странянецца душа
Кропляй на вясле.
Пачынаю шукаць,
Што дарога пашле.
Можа, пыл і палын
На вандроўнай мяжы?
Як далей будзем жыць,
Праўды нашай званы?
Рэха крокаў чуваць
Аж з мінулых вякоў.
За якою вяхой
Сеяць што і што жаць?
Першадрукі Скарыны,
Каліноўскага меч,
Як пароль — не скарыцца —
І не гнуць долу плеч.
Голас твой векавы
Будзіць думы узлёт.
Праціне напралёт
Слоў тых кліч вечавы.
І пушчанец свой гнеў
З ланцугамі парве.
І ніякі сугней
Мой народ не сагне!

**ІВАН РУБІН**

## ЯК АДЧУВАЮЦЬ СЯБЕ ПЕРАМОЖЦЫ?

Працяг са стар. 1

ныя мусяць дацерціся. Я б перасцерагаў маіх калег перад лішняй ахвотай дарвацца да чыноўніцкіх крэслаў. Памятайма, што ў горадзе яшчэ 26 тысяч людзей, якія ў раду не ўвайшлі. Сярод іх таксама ёсць адпаведныя людзі заняць адказныя пасады.

Найгоршым нашым грэхам была б празмерная ганарыстасць, калі б мы забыліся хто і дзеля чаго нас выбраў. Таму я ўжо сёння запрашаю маіх выбаршчыкаў: прыходзьце са сваімі праблемамі — будзем іх супольна вырашаць. На будучыню падумаем, як гэтыя сустрэчы сарганізаваць належным парадкам, але ўжо сёння напэўна ніхто з маіх калег ад такой сустрэчы не адмовіцца. Як і не адмовіць у дапамозе, калі гэта будзе магчымае. А я, калі хто не ведае, працую ў Пачатковай школе н-р 3.

— *Дзякуй за размову.*

**Пытаў МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. Тэму будзем працягваць у наступных нумарах „Нівы".

# БЕЛАРУСЬ ПАТРАБУЕ ЗМЕН

Працяг са стар. 1

чаго шукаюць у сумках беларускія мытнікі, чаму стараюцца забіраць гарэлку ад сваіх грамадзян, якія вязуць яе на базары ў Польшчы (зразумела, чаму гэта робяць палякі), чаму пагранічнікам патрэбны дзве гадзіны, каб паставіць штамп у пашпартах для трыццаці пасажыраў рэйсавага аўтобуса. Здаецца, найдурнейшаму ўрадніку павінна быць вядома, што калі хтосьці прыязджае з-за мяжы, ён мусіць дзесьці спаць, есці і выдаваць прывезеныя грошы. У нармальных дзяржавах на тысячы спосабаў стараюцца заахвоціць да ўезду ў свае межы і як найдаўжэйшай пабыўкі, заахвочваюць купляць іх тавары і вывозіць іх да сябе. А тут акурат усё наадварот. Чыстым сюррэалізмам з'яўляецца факт, калі ў канторы абмену валюты інфармуюць нас, што няма беларускіх грошай. Долары ім непатрэбныя?!

Савецкая сістэма глядзела на ўсіх іншаземцаў, як на патэнцыяльных шпіёнаў і неахвотна бачыла іх на сваёй тэрыторыі. Гэтае і па сённяшні дзень засталося ў Беларусі — у сапраўднасці камітыя і як партыйныя функцыянеры, і як рабочыя, і як салдаты. Цяпер прыйшоў час самім вырашаць праблемы, а большасць паводзіць сябе як дзеці. Як тут жыць, што рабіць? — гэта пытанні, якія найчасцей ставяць людзі ў штодзённых гутарках. Нібы ходзяць на працу, але зарплату атрымоўваюць такую, што не ведаюць, як перажыць да наступнай палучкі. Таксама як у Польшчы вакол відаць станаўленне касты доларавых мільянераў. „Савецкі рай" вяртаецца людзям ва ўспамінах як напамін дзяцінства — ніякіх клопатаў, пэўная праца і плата, сарганізаваны адпачынак. Хтосьці думаў і клапаціўся за нармальнага грамадзяніна. Вялікія лозунгі інфармавалі, што робіць гэта партыя. Была тады і справядлівасць — сцвярджае маладая бібліятэкарка.

Мэтай маёй паездкі ў Менск была канферэнцыя, прысвечаная культуры беларускага замежжа. За два дні арганізатары — рада Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" — задумалі прадставіць каля 60 дакладаў і ўсе на пленарным пасяджэнні, без падзелу на тэматычныя групы. Змест некаторых выступленняў, асабліва тых агульнавядомых асоб, таксама добра пасаваў бы на святкаванне 1 Мая, Дзядоў ці Дня перамогі. Але было таксама некалькі цікавых дакладаў, звязаных з ідэяй канферэнцыі. Пакуль у Вялікай зале Дома літаратара нічога асаблівага не дзеялася, на вуліцы побач будынка і на калідорах вяліся жывыя дыскусіі, кожны гутарыў з кім хацеў. А ў Менск прыехала сапраўды шмат цікавых людзей з Літвы, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Расеі, Амерыкі, Англіі ды іншых краін. Дарэчы, у мяне склалася ўражанне, што ў Менск з'ехалася беларуская сям'я.



*На калідорах вяліся ажыўленыя размовы. Пра свой лёс расказвае Георгій Усцілоўскі (злева).*

апошняй савецкай рэспубліцы.

Сталіцу Беларусі пабачыў я амаль такой самай як год таму, толькі больш занятай палітыкай. Сацыялістычны горад. Туалет на аўтавакзале ў цэнтры горада напамінае такую ж убоpную у Бельску-Падляшскім палова 80-х гадоў. Трамваі, аўтобусы, будынкі патрабуюць шчоткі, вады і тон фарбы. Так як нядаўна ў Польшчы нявырашальнай праблемай была нястача туалетнай паперы, так у Менску немагчыма летам чагосьці напіцца. Мінеральная вада ёсць, але толькі замежная і ў гатэлях — 26 тысяч рублёў за бутэльку, калі пляшка гарэлкі каштуе 10—12 тысяч. У прыватных крамах шмат тавараў, але цэны прыблізна такія, як і ў Польшчы. У адрозненні ад сталіцы Украіны, у Менску пасля 19 гадзіны не знойдзеш адкрытай крамы, не спаткаеш таксама прастытутак ні жабракоў на вуліцы, затое лёгка можна трапіць у рукі або пад ногі жулікаў, аб чым пераканаўся наш сябра з Рыбалаў, які ў адзіночку выйшаў на вячэрні шпацыр. Найбольш рашучыя змены патрэбныя аднак у псіхіцы грамадзян Беларусі. Нармальнасці не будзе, пакуль не пачнуць пратэставаць супраць крывадушнасці ўладаў, пакуль не стане перашкаджаць стан туалетаў у тэатрах, рэстаранах, вакзалах, пакуль пакорліва трактаваць будуць грубіянства прадаўшчыцы, урадніка, шафёра, міліцыі, а гэта абазначае, пакуль не пачнуць шанаваць саміх сябе.

Я пераканаўся, што матэрыяльная сітуацыя беларусаў дрэнная не таму, што яны лянівыя, але таму, што зусім неарганізаваныя. Прывыклі, што хтосьці імі кіраваў, паказваў, як і што рабіць. У ролі выканаўцаў былі яны зна-

Людскія лёсы вызначаюць лёс народа. Гутару, напрыклад, з вельмі вясёлым пажылым чалавекам з Рэспублікі Комі. Аказалася, што называецца ён Георгій Усцілоўскі і 22 гады праседзеў у савецкіх канцлагерах на тэрыторыі Комі. Неверагодны кашмар гулагаўскага жыцця, дзе на 20 чалавек толькі адзін меў шанц перажыць. Спадар Усцілоўскі пару разоў стаяў на мяжы смерці. Яму ўдалося выжыць, але дзесяткі тысяч вязняў на яго вачах было расстраляных, павешаных, замучаных, памерлі ад голаду і хвароб. Тое, што мяне ўразіла ў таго чалавека, гэта яго пачуццё гумару. „У 1933 годзе, — кажа, — забралі мяне як шаснаццацігадовага контррэвалюцыянера, а ў 1958 перапрасілі за памылку. Якія яны сумленныя і справядлівыя", — сказаў без злосці Георгій Усцілоўскі.

Невядома чаму, выязджаючы з Менска, бачу беларускую сталіцу як вельмі прыгожы горад. Магчыма таму, што людзі з цэлага свету, якіх я там спаткаў, інакш сабе яго не ўяўляюць.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**
**Фота М. Лукшы**

# „ШЧЭ НЭ ВМЭРЛА УКРАЇНА"

*(заканчэнне)*

Аляксандр Майбарада з'яўляецца шэфам аддзела Народнага руху Украіны па справах нацыянальнай палітыкі. Сказаў ён — як на ўсходнееўрапейскага палітыка — вельмі арыгінальную фразу: „Усе нацыянальныя праблемы будуць толькі тады вырашаны, калі людзі стануць багатымі і самі будуць фінансаваць такую асвету ці культуру, якую захочуць. Але пакуль што ўмовы маем такія, якія прымушаюць дзяржаўны апарат займацца гэтым".

На Украіне на павестцы дня стаіць пытанне дзяржаўнай мовы. Усходняя Украіна дамагаецца прызнаць расейскай мове статус дзяржаўнай, таксама як і ўкраінскай. Там амаль усе грамадзяне карыстаюцца ёю. Самыя ўкраінцы, — гаворыць Майбарада, — крычаць: навошта нам тая нацыянальнасць, мова, калі з яе з'яўленнем прапалі тавары ў крамах і грошы ў кішэнях! Украінцаў выхавалі на савецкіх патрыётаў. Саюз развaліўся, а патрыятызм застаўся.

Пару месяцаў таму ўкраінскі ўрад стварыў Міністэрства па справах нацыянальнасці і эміграцыі. Сустрэча з віцэ-міністрам Аляксандрам Леснічэнкам з мэрытарычнага пункту гледжання была найбольш сэнсоўнай за час нашай пабыўкі ў Кіеве. Паінфармаваў ён, што Украіна выдаткавала на падтрымку культуры нацыянальных меншасцей 2,9 мільярда карбаванцаў. Пералічылі мы зараз гэтую суму на долары і параўналі да бюджэтных выдаткаў польскай дзяржавы на патрэбы меншасцей, якія жывуць у нашай краіне. Улічваючы вартасць сярэдняй зарплаты, выйшла нам, што Украіна выдае на свае меншасці суму ў 7 разоў большую, чым Польшча. Прысутныя на сустрэчы ўкраінцы з Польшчы не скрывалі свайго расчаравання вынікамі палітыкі, якая вядзецца ў абедзвюх дзяржавах. Як заўважыў Генрык Калодзей з Саюза ўкраінцаў, толькі ў Львоўскім ваяводстве ўлады вярнулі палякам 230 касцёлаў, у Польшчы ўкраінцы пакуль што не атрымалі ніводнай сваёй царквы.

З таго, што сказаў спадар Лесніченка, выглядае на тое, што найлепшыя ўмовы для захавання свае культуры маюць яўрэі, якія ў Кіеве выдаюць 11 часопісаў. Каля 300 студэнтаў гэтай нацыянальнасці вучыцца ва Універсітэце Саламона ў сталіцы Украіны. Яўрэі маюць таксама свае пачатковыя школы і прадшколлі, два тэатры.

Беларусы, якіх столькі ж, што і яўрэяў — 400 тысяч — толькі што пачынаюць ствараць свае таварыствы ды супольнасці, не маюць ніводнай школы ці часопіса. Са статыстыкі, якую прадставіў віцэ-міністр, можна зрабіць такую выснову: толькі арганізаваныя меншасці, за якімі стаіць нейкая дзяржава, маюць шанц мець свае школы, газеты, тэатры і г.д. Такія ўмовы маюць тут палякі і немцы. Татары ці румыны, якіх у некалькі разоў больш, чым немцаў і палякаў разам, апынуліся ў падобнай сітуацыі як беларусы.

Чарговая сустрэча з навуковым асяроддзем Кіева, якое займаецца нацыянальнымі праблемамі — гісторыкамі, сацыёлагамі, этнографамі — дала такі цікавы тэзіс: усе амаль меншасці рашуча арыентуюцца на савецкую мадэль жыцця і галасуюць найчасцей на сацыялістычныя ці камуністычныя партыі. Выглядае на тое, што беларусы на Беласточчыне ці палякі на Віленшчыне ў сваіх палітычных меркаваннях не з'яўляюцца чымсьці асаблівым.

Справамі нацыянальных меншасцей на Украіне займаецца некалькі навуковых цэнтраў. Аднак з увагі на кароткі час укаранення праграм гэтых даследаванняў, вялікіх дасягненняў пакуль што няма. Ніхто аднак з навукоўцаў не скрываў, што іх праца перш за ўсё будзе выкарыстоўвацца пры канструкцыі новага заканадаўства і на патрэбы ўнутранай палітыкі новай дзяржавы.

Прысутны на сустрэчы доктар Раман Малоўскі з Саюза палякаў паінфармаваў, што ў Кіеве ёсць 5 польскіх культурных таварыстваў. 80% палякаў сваёй роднай мовай лічаць украінскую, 10% — расейскую і 10% — польскую. Апрача гэтых асноўных інфармацый пра палякаў пан Малоўскі выклаў таксама свае тэзісы, якія з'явіліся яму пасля шматгадовых навуковых даследаванняў: „кожны паляк гэта католік", „кожны паляк гэта шляхціц", „польскіх халопаў на Украіне не было". Не стрымаў гэтага Генрык Калодзей — украінец з Польшчы і прыпомніў паляку з Украіны, што пагромы палякаў на Валыні ў 1943 г. палякі падрыхтоўвалі самі сабе доўгімі гадамі, тым менавіта мысленнем і паводзінамі, якія прадстаўляў пан Малоўскі.

Падчас чарговай сустрэчы, гэтым разам з дэпутатамі ад Народнага руху Украіны, выявілася, што карупцыйныя афёры там не менш скандальныя, чым у Польшчы. Нейкі віцэ-міністр Сталяроў абакраў дзяржаву на 500 мільёнаў долараў, выехаў у Амерыку і атрымаў тамашняе грамадзянства. Вядома, што людзей з грашамі ў Амерыцы заўсёды віталі хлебам і соллю. Камуністычны пераварот — як акрэслілі вынікі апошніх парламенцкіх выбараў на Украіне дэпутаты Руху — выкліча неўзабаве новую хвалю „прыхватызацыі", наменклатура заваладае рэшткамі дзяржаўнай маёмасці. Кожны дзень здамінаваны камуністамі парламент парушае ўсе рэгламенты, не ўспамінаючы пра тое, што ніхто нават і не думае рэалізаваць свае перадвыбарчыя праграмы. Будучыня Украіны пад кіраўніцтвам камуністаў — паводле дэпутатаў Руху — не надта цікавая.

Затое апошняя сустрэча з кіраўніцтвам Саюза ўкраінскіх жанчын напоўненая была такім аптымізмам, што я сам ледзь не стаў сябрам гэтай арганізацыі. На 5 мужчын з нашай дэлегацыі чакалі на сталах 6 тартоў, вельмі салодкае румынскае віно, яшчэ больш салодкія ўкраінскія цукеркі і, зразумела, салодкія ўсмешкі актывістак. Была толькі адна праблема, як адмовіцца ад чарговых кавалкаў торта. „Ён жа такі добры, салодкі", — пераконвалі жанчыны. Пасля трэцяга кавалка я абяцаў сабе, што прынамсі да 2000 года больш гэтага ласунку не пакаштую.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ВІЗІТ МЕНСКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

Працяг са стар. 1

Пакідаючы Беласток, народныя дэпутаты шкадавалі, што не прыйшлося ім паразмаўляць у рэдакцыі аб клопатах беларусаў на Беласточчыне або лепш сказаць, як іх бачаць мясцовыя беларусы, наколькі праблемы нашай меншасці дэталёва асвятлілі ім у Варшаве. Абяцалі яны вярнуцца да гэтай тэмы пры чарговым візіце. Ну што ж, мы таксама шкадуем, хаця разумеем, што ад куртуазных візітаў рэдка бываюць станоўчыя вынікі. Але паразмаўляць не шкодзіла б. Дык да чарговай сустрэчы!

**ВІТАЛЬ ЛУБА**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ*
*№ 414*
*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*ЗОСЯ САЧКО*

* * *

*Памэті Тата*

Хто жывэ
— вэсна ёму дана
руок в руок на вэсну
бачат еі очы
дэнь в дэнь
прыняті еі можэт
чыж в огнёві сьвічок
на поміновеніі
нэ цьвіэт яблыні дрыжыт
але плачут нашы очы
бо пустэ убране
і міэсьце тут пустэ

*21.03.1993.*

* * *

Тато
— ліэтіэлі дзісь журавліэ
чы од Вас іх чуті
ужэ бы разом дівілісь
воділі пальцём по нэбі
а пучэ на нову вэсну
ніц нэ вымэрзло сіголіта
добра зіма была
кому на жыце

*22.03.1993.*

* * *

нэгдэ я нэ спішаю
нэяк нэ тороп'юсь
нэма дня
коб Тато на лавочці
нас нэ выглядалі
і ліэтом і зімою
кацей мыецьця на прызбі
промэнь сонця дрыжыт
розовы двэры одчыняю
до хаты
і з хаты на двуор

*04.05.1993.*



*Рыс. Міколы Давідзюка*

*БАРЫС РУСКО*

## Суфлёр

Гэтых слоў я не ведаў, хоць сустрэўся са Сфінксам.
У жмені пяску прынёс на лекцыю гісторыі.
Гэтых слоў я не ведаў, хоць прымаў Хокінга.
На стол падкінуў з прывітальным адрасам.
Гэтых слоў я не ведаў, хоць знайшоў Сартра.
Заказным пісьмом даслаў асабіста.
Гэтых слоў я не ведаў, хоць пісаў вершы.
Прынёс на падносе ў лусце паэзіі.
Гэтых слоў я не ведаў, але меў Суфлёра.
Ён употай падказваў, а я ўголас вяшчаў.

*ГАЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ*

## У садку

Яблыні.
Старыя яблыні, бы дзве сястры-старэчы.
Яны тут сведкі ўсіх падзей бацькоўскага двара.
Цвітуць ужо так скупа...
І, дарэчы, суседзі кажуць:
— Зрубаць іх пара.

А мне шкада іх, як расстацца
з імі?
Яны, як цёткі родныя, мяне вітаюць
кожнаю вясною —
Нашто пілою скарачаць жыццё ім?
— Канец ужо не за гарамі
іх...
і мой.

*АДАЛЬБЕРТ ФОН ШАМІСА*
*(1781 — 1838)*

## Вяртанне

Вярнуўшыся з чужыны у Айчыну,
Узварушыўся да глыбіні душы вандроўнік;
Укленчыўшы, губляе посах
Й адліваe на улонні слёзы,
Тваім, Нямеччына! За журбу такую
Не адмоў у просьбе:
Калі, здарожанаму, вечар засціць вочы,
Хай на зямлі тваёй ён знойдзе камень,
Каб на яго панікнуць галавою.

*Свінавусце, у кастрычніку 1818 г.*

*ФРЫДРЫХ ГЁЛЬДЭРЛІН*
*(1770 — 1843)*

## Недаравальнае

Калі пра сябра забыўся, калі мастака аддаў на пасмешышча
І глыбокая думка здалася табе павярхоўнай,
Бог не спагоніць, аднак бойся
Устрывожыць мір каханых.

*З нямецкай мовы пераклаў*
*ЮРЫ ТРАЧУК*

*ВІКТАР ВАРАШЫЛЬСКІ*

## Інтэлігенты

Бяда з вамі
інтэлігентамі

І хоць не павінна вас быць
вы ёсць

Няма ў вас інстынкту самазахавання

Грудзі якія вас кормяць
кусаеце

Палымнееце ад сораму
за ўсе гідасці свету
на ўсяк-усякіх кастрах

Прыдумваеце
perpetuum mobile
дзяржаву сонца
шматстайнасць рэчаіснасці
і час-часам дзеля палёгкі бліжнім
гільяціну
У рамках эксперыменту
самі наклаўшы галавою

Доктар навук Маркс
прыдумаў дадатковую вартасць
і пра кайданы распавёў акрамя якіх як памятаеце
пралетарыяту няма чаго губляць

Доктар Корчак
прыдумаў *Як любіць дзяцей*
і прытрымліваўся таго да канца:
за цёплую малую далоньку
схаладнелаю рукою

Граф Талстой не скончыўшы юрыдычнага
факультэта прыдумаў
*Не магу маўчаць!* супроць смяротнаму пакаранню
і зла што спараджае новае зло Вырашыў
супыніць

Доктар Швейцэр тэолаг прыдумаў
што трэба збаўлення целу
пракажных неграў кажучы
Іду Госпадзе

Доктар Жансон француз добра не ведаю ці доктар прыдумаў
што французам не месца
у Афрыцы шмат хто лічыў яго
благім французам

А доктар Халубінскі з Варшавы
узыходзіў усё вышэй
з маладзеючым сэрцам і запыняючыся
на строме ветру прыдумаў
*гураляў* без смеху кажу задума доктара Халасінскага
таксама не з благіх

*Пераклаў С. Яновіч*

*ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ*

# РАЗВІТАННЕ

Вярнуўся я з доўгатэрміновай камандзіроўкі і адразу прыйшоў да сяброўкі, Галены і яе трохгадовай дачушкі Ані. За абедам заўважыў, што Галена чагосьці неспакойная; калі падносіла талеркі, у яе дрыжалі рукі. У яе поглядзе быў страх, адчай.

— Што з табой? — устрывожыўся я.

Яна маўчала і ўсё нешта думала. Я ўважліва глядзеў на яе твар, бледны і змучаны. Палахлівы, вінаваты яе позірк і гэтая яе разгубленая трывога задалі мне смутку.

— Я павінна табе нешта сказаць, — голас у яе задрыжаў, — штосьці, чаго заўсёды баялася, а чаго не магу далей таіць перад табой.

Хвіліну памаўчала і паглядзела на мяне.

— Быў ты для мяне добры...

Здалося мне, што яна яшчэ сказала нешта, але ўжо вельмі ціха.

— Ты любіш мяне, дзіця... Быў ты для мяне добры, — даходзіў да маіх вушэй той самы дрыжачы голас, — але... ты ведаеш маё мінулае. Я некалі кахала яго. Ён — бацька майго дзіцяці.

Цяпер у яе вачах была роспач, вусны скрывіліся. Калі зноў паглядзела ў мой бок, здалося мне, што ўбачыла нешта страшнае, што яе спалохала. Гэта быў я, мая рэакцыя на яе словы. Значыць, не ўдалося пазбегчы таго, што мяне праследавала. Таго, што яна некалі вернецца да яго.

Я хацеў нешта сказаць, заглушыць свае ранейшыя думкі, якія зараз, так нечакана сталі рэчаіснасцю. Я хацеў...

І толькі ўбачыў, як па Галеніных шчоках пацяклі слёзы ды яе трывожна-сумятлівыя вочы.

Яна была такая сур'ёзная і... прыгожая. Можа, менавіта, у гэты момант была найпрыгажэйшай. А, мо, мне гэта толькі здалося? Я хацеў устаць, абняць яе твар і пацалаваць.

— Тая любоў зноў адрадзілася. Я не хачу табе хлусіць...

Пачуць гэта было мне найбольш балюча. Можа, яна гэта заўважыла. Можа, таму зноў з яе вачэй ручайкамі пацяклі слёзы. Яна хацела закрыць твар рукамі, змагалася з сабой.

Я шкадаваў яе, намерыўся прытуліць да сябе, моцна-моцна. Памагчы ёй — гэта зараз было адзінае маё жаданне. Тады, калі пакінуў яе муж, пакідаючы ёй дзіця, я яе пакахаў. Хацеў ёй дапамагчы забыць тыя цяжкія для яе хвіліны. Не мог, аднак, устаць, так быў прыбіты сказаным, тым, чаго так баяўся.

— Даруй мне ўсё. Зразумей, ён — бацька майго дзіцяці, — неяк быццам здалёк даходзіў да мяне яе голас.

А пасля амаль крыкам дадала:

— Ты быў добры для мяне, заўсёды мяне разумеў, дык і цяпер...

Я ўжо не бачыў яе твару. Яна схілілася над сталом, рыдала.

Я падняўся з крэсла і падышоў да яе. Далікатна пагладзіў валасы. Яна пакорліва прыхінулася да мяне, і я пачаў цалаваць яе вочы, шчокі, вусны.

Пасля Галена раптоўна ўстала, як бы разумеючы, што ёй ужо нельга прытуліцца да мяне. Падышла да акна. Я не зварухнуўся са свайго месца.

— Ён вярнуўся, — сказала яна, — і ўсё прыйшло разам з ім. Ён любіць сваё дзіця.

— Гэтага я і баяўся, — пачуў я быццам не свой голас, — але сталася.

— Даруеш мне, праўда? — спытала Галена, павярнулася да мяне. — Так?

Я маўчаў. Калі скажу „так", гэта абазначала б маё адрачэнне ад кахання, ад шчасця, ад Ані, якая зараз прыбегла са свайго пакойчыка і прытулілася да мяне. Цяжка было б мне выехаць адсюль, пакідаючы ўсё.

Я выйшаў, не развітаўшыся. Сэрца сціскалася ад вялікага смутку, злосці і крыўды. Бывай, мая Галена! Бывай, мая радасць!

Халаднаватае, свежае паветра паволі вяртала мне сілы. Мне хацелася б, каб удары шумны лівень, наляцеў вецер — каб штосьці змянілася ў прыродзе. Я спыніўся, нібы чакаючы гэтага цуду, але па-ранейшаму нудліва сеяўся дождж. Я паставіў каўнер плашча. Нешта гнала мяне наперад, у мокрую глухую цемнату. Я ішоў сярод цёмных дрэў, і не знікаў мой боль.

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

4

### ВЫБАР ІМЕНІ

Неспакой першай ночы пад новым дахам паўтараўся, пакуль сабачка не асвойтаўся канчаткова. Прывык да свайго закутка і спаў там без лішніх турбацый, толькі падаваў голас, калі прасіўся на панадворак. Ласкавы, ахайны і кемлівы, ён прыпаў даспадобы ўсім, але ніхто з нас не мог адважыцца назваць малога. Паляпшаць і спрашчаць узаемаразуменне з ім можна было толькі выбраўшы гадаванцу імя, трапнае і лёгкае, каб ён запомніў, аглядаўся на вокліч, бег, выконваў даручэнне. Звароты накшталт цюлік, сабачка, цюцька, цю-цю-цю вычарпалі сябе і не прыдаваліся да ўжытку.

— Як жа яго ахрысціць? — разважалі мы штодня, найчасцей за снеданнем.

— Праўду казаў Марат, — сказала аднойчы Гаспадыня, — гэта будзе вялікі сабака. І разумны. Сёння ён бегаў са мною па ваду на калонку. Падышла суседка з вёдрамі, дык ён наставіў поўсць і, што вы думаеце, — забрахаў.

— Выходзіць, імя трэба даваць з разлікам, відаць жа, ён яшчэ паразумнее.

— Ад зямлі не відзён, а сваіх бароніць, — уцешылася Гаспадыніна сястра Наташа.

— Хай тады завецца Абаронца, — услед за маці падхапіла Іна, самая малодшая жыхарка кватэры.

На гэтым, аднак, не спыніліся, лепш пачакаць: імёны, як і мянушкі, звычайна знаходзяцца самі, адразу прыстаюць да сваіх будучых носьбітаў, выяўляючы якую-небудзь характэрную рысу іх выгляду ці характару. Сапраўды, імя знайшлося само. Спачатку адно, а пасля і другое, канчаткова.

*(працяг у наступным нумары)*

МАКСІМ ЛУЖАНІН



*Выступае Аня Сухадола з Нараўкі.* Фота М. Ваўранюка

# ЛІПЕНЬ

Ліпень — вяршыня лета, самы цёплы і адначасова самы дажджлівы месяц года. Сярэдняя тэмпература паветра вагаецца ў межах 18—20 градусаў. Гэта адзіны месяц у годзе, калі поўнасцю выключана магчымасць замаразкаў.

Дажджы ідуць часта. Багацце цяпла і вільгаці садзейнічае росту раслін, асабліва дзікіх траў і сельскагаспадарчых культур. Цвіце блакітнымі і фіялетавымі гронкамі мышыны гарошак, аплятае сваімі доўгімі сцёбламі суседнія стволікі злакаў. Расцвітае лугавая герань, крываўнік, святаяннік. А сярод пасеваў жыта расчыніліі блакітныя галоўкі шматлікія валошкі. У паўтараметровую вышыню ўзняўся на ўзлесках і па ўскрайках шырокіх палянак прыгажун нашых лясоў іван-чай. Але найбольш характэрным для гэтага месяца ўсё ж лічыцца квітненне ліпы. Ліпа — непераўзыдзены меданос. Толькі з аднаго гектара ліпавага лесу нястомныя працаўніцы збіраюць часам да тоны высокакаштоўнага нектару, а з кожнага дрэва — па 10—15 кілаграмаў.

У лясных насельнікаў свае клопаты. Не часта пачуеш птушынае шчабятанне. Маўчаць салаўі, не кукуе зязюля. Толькі зрэдку даносіцца пошчак жаваранка, флейтавы покліч івалгі, прасвішча сініца. У гарыхвосткі, перапёлкі, дразда — другая кладка.

А шпакі і гракі ўжо збіраюцца ў вялікія чароды і спрабуюць свае сілы для будучых доўгіх пералётаў. Цяпер трэба ахоўваць ад іх вішнёвыя сады. Вадаплаўныя птушкі, наадварот, забіліся ў густы зараснік чароту і сядзяць там употай: у іх выпадае цяпер махавое пер'е і яны часова не могуць лятаць.

Падраслі і набылі рыжую афарбоўку маладыя лісяняты. Яны ўжо разам з бацькамі выходзяць на паляванне і даволі паспяхова здабываюць маладых зайчанят, палёвак і дзікую птушку. А зайчаняты, якія з'явіліся ў другім прыплодзе, падрастаюць і вучацца затойвацца і выратоўвацца ад гэтых і іншых драпежнікаў.

У жвавай яшчаркі на свет з'явіцца толькі першы вывадак. Яшчараняты вылупіліся з дробных скураных яек і асвойваюць цяпер алфавіт самастойнага жыцця. У вельмі гарачыя дні можна ўбачыць гадзюку, якая грэецца на пні. А вужы больш цягнуцца да балоцістых месц, да вадасховішчаў.

У ліпені пачынаецца грыбны сезон. Цэлымі чародкамі высыпаюць сярод густога моху жоўценькія мініяцюрныя „талерачкі" лісічак. У самых незвычайных месцах можна сустрэць шэрыя і карычневыя падбярозавікі. З'яўляюцца і надзвычай прыгожыя чырвонагаловыя падасінавікі. А белых грыбоў, баравікоў, пакуль мала. Яшчэ адзін-два тыдні пройдзе, і яны таксама парадуюць грыбнікоў.

*Вершы Віктара Шведа*

### ЦІ ЗАГАРЭЛІ ВАЧАНЯТЫ?

Пайшла аднойчы Ната з татам
На луг уквечаны ля хаты.
Траву прыкрылі мяккім пледам
І загаралі да абеду.

Гарачае надзвычай сонца
Праменне сеяла бясконца.
Наталька запытала тату:
— Ці загарэлі вачаняты?

### З ПАРАСОНАМ У ПАГОДУ

У школе пытаюцца Лявона
Цікаўныя заўсёды дзеці:
— Чаму ты ходзіш з парасонам,
Калі прыгожа сонца свеціць?

Лявон Віталіку, Валер'і
Сказаў, калі ішоў дахаты:
— Калі дажджлівае надвор'е,
З тым парасонам ходзіць тата.

### „НАБОЖНЫ"

Пытаецца матуля Вову:
— Скажы мне, дарагі сынок,
Які ж настаўнік гэты новы,
Што сёння першы вёў урок?

— „Набожны", мама, ён страшэнна.
Вось здарылася што са мной:
Калі адказваў яму дрэнна —
Ён крыкнуў: — Божа, Божа мой!

*Кладоўка здароўя*

# ХВОЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

Хвоя — дрэва каля 20—40 метраў вышынёй, з магутным, адліваючым чырвоным золатам ствалом і кучаравай кронай. У народзе хвоя ўвасабляе родны край — шчодры, багаты, прыгожы, з'яўляецца сімвалам вынослівасці.

Паветра хваёвага бору чыстае, вельмі карыснае для людзей са слабымі лёгкімі і асабліва — для хворых туберкулёзам, таму што хвоя выдзяляе ў паветра фітанцыды, якія маюць антыбактэрыяльныя ўласцівасці. Хвоя — адна са старажытнейшых лекавых раслін. Лекавай сыравінай з'яўляюцца хваёвыя пупышкі, іх збіраюць зімою або ранняй вясной. Настоі і адвары з пупышак выкарыстоўваюцца для інгаляцый пры запаленчых захворваннях дыхальных шляхоў. У пупышках выяўлена эфірнае масла, горкія і дубільныя рэчывы, крухмал, аскарбінавая кіслата, фітанцыды.

### Адвар з пупышак

10 г сыравіны гатуюць у 200 мл вады. Прымаюць па сталовай лыжцы 3—4 разы на дзень. Аднак хваёвыя пупышкі супрацьпаказаны пры шэрагу ныркавых захворванняў і могуць выклікаць алергічныя рэакцыі.

З лекавай мэтай выкарыстоўваюць ігліцу хвоі. У ёй утрымліваецца аскарбінавая кіслата, дубільныя рэчывы, эфірнае масла, солі; каравін, вітаміны B1, B2, P, K, мінеральныя солі, фітанцыды і інш. Настой ігліцы ўжываюць для прафілактыкі і лячэння цынгі (шкорбуту) і пры інфекцыйных захворваннях і раненнях.

### Вітамінны хвойны настой

1) 4 шклянкі свежай, прамытай пад струменем халоднай вады і пастрыжанай ігліцы заліць 2,5 шклянкі халоднай вады, дадаць 2 чайныя лыжкі салянай кіслаты і паставіць на 2—3 дні ў цёмнае месца. Працадзіць. Прымаць па адной шклянцы на дзень.

2) Сыравіну расцерці з невялікай колькасцю халоднай гатаванай вады, атрыманую кашку развесці і падкісліць лімоннай кіслатой. Настойваць 2 гадзіны.

Светла-жоўтая празрыстая смала хвоі называецца жывіцай. З яе ўтвараецца ўсім вядомы бурштын. Адно дрэва можа даць каля літра і больш жывіцы, з якой атрымліваюць шкіпінар і каніфоль. Шкіпінар уваходзіць у склад мазяў для расцірання пры неўралгіях, раматусе, ужываецца ў выглядзе інгаляцый пры захворванні лёгкіх.

А. НОВІКАВА

# ЛАГАГРЫФ



1. расліна сямейства гарбузовых, 2. ранейшая польская сталіца, 3. мэбля для сядзення, 4. рамеснік, які вырабляў посуд з гліны, 5. чорна-белая птушка, 6. шэра-чорная птушка.

Вылучаныя літары складуць назву расліны, якую даўней паўсюдна вырошчвалі на Беларусі дзеля смачнай і пажыўнай кашы.

# ЗАЙЧЫК І ЯГО СЯБРЫ

Аднойчы ўбачыў зайчык, як пад кустом вожык плача, слёзы буйныя, як гарошыны, коцяцца ў беднага з вачэй. Спыніўся зайчык і пытаецца:

— Сябра вожык, чаго ты плачаш? Глянь, як сонейка свеціць. Можа, я тваймy гору дапамагу?

— Як жа мне не плакаць, — гаворыць вожык, — а сам лапкай слёзы выцірае. — Хадзіў я па лесе, мышак дзеткам лавіў, а вярнуўся дадому — няма маіх дзетак.

— Не плач, вожык. Адшукаю тваіх дзетак. Нідзе яны дзецца не маглі.

Сказаў гэтак зайчык і паскакаў далей па лесе.

Аж бачыць азярцо невялікае. Купаюцца ў ім, фыркаюць тры маладзенькія вожыкі.

— Ай-яй-яй-яй, гэта ж яны ўтапіцца могуць! — спалохаўся зайчык і паклікаў вожыкаў на бераг. Тыя і расказалі яму, як з дому сышлі.

Калі ўбачыў стары вожык, што зайчык яго дзетак вядзе, вельмі ўзрадаваўся.

— Дзякуй табе, зайчык, ніколі не забуду тваю дапамогу.

Развітаўся зайчык з вожыкам і далей паскакаў. На палянцы сеў на пянёк, на сонейку грэецца. Прыслухаўся, як дрэвы гамоняць, траўка шапоча, і чуе: нехта сіратлівым галаском на ратунак кліча. Скочыў зайчык з пянька і бачыць: на кусціку ядлоўцу ў павуцінні вісіць уніз галоўкай чмель. Ножкамі трапеча, вырвацца хоча, але нічога ў яго не атрымліваецца. Выратаваў зайчык чмяля і далей па лесе паскакаў.

Хутка ў галінах дрэў загаласіў вецер. Неба стала чорным.

„Што рабіць? — падумаў зайчык. — Навальніца будзе!"

Скокнуў ён пад густую елачку і агледзеўся. Добрае месца выбраў! Ніякі дождж не страшны.

Перачакаў зайчык пад елачкай навальніцу і далей паскакаў. Аж бачыць елку, якую навальніца паваліла. Каля елкі вавёрачка сядзіць, горкімі слязамі заліваецца. Падбег зайчык да вавёркі і пытаецца:

— Скажы, вавёрачка, чаго ты плачаш? Можа, я тваймy гору дапамагу?

Яшчэ мацней заплакала вавёрачка:

— Была ў мяне хатка на елцы і няма. Дзе я цяпер буду сваіх дзетак гадаваць?

— Не плач, вавёрачка, дапамагу я тваймy гору.

Сказаў так зайчык і ўзяўся хатку будаваць.

Бралася напрыцемкі, калі зайка развітаўся з вавёрачкай і дамоў паскакаў. Па дарозе ў ямку з вадой уваліўся. Пакуль выбраўся з яе, аслаб зусім. Ледзьве дамоў дабраўся. Не мог заснуць. А потым сны страшныя сніліся. То паляўнічыя за ім са стрэльбаю гоняцца, то ліса ў хатку залезці хоча. А раніцою не падняўся зайчык з пасцелі. Ні войкнуць, ні павярнуцца не можа. Усё цела як агнём смаліць. Захацелася яму піць, а вады падаць няма каму.

„Памру тут адзін, ніхто і ведаць не будзе", — думае зайчык.

У гэты час у дзверы нехта ціхенька пастукаў. Узрадаваўся зайчык, калі на парозе сваёй хаткі ўбачыў знаёмага вожыка з дзеткамі. Яны прынеслі вялікі пірог з грыбамі.

Не пакінула ў бядзе зайчыка і вавёрачка. Кожны дзень прыбягала да яго, гасцінцы прыносіла.

Прыхапіў з сабою кубачак мёду, прыляцеў адведаць зайчыка і чмель.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**



*— Колькі мне яшчэ часу да школы?*
**Фота Ю. Паплаўскага**

*МІКОЛА МАЛЯЎКА*

# ВОЎЧАЯ ГРАМАТА, або ЧАМУ ВОЎК ВЫЕ

## З народнага

Не выў лясны бадзяга
Ні дома, ні ў сяле,
Хоць і жылося блага
Без хлеба на стале.
Адваджвалі здаўна
Яго, ваўка старога,
Ад кожнага акна,
Ад кожнага парога.
Прагаладаў зіму,
Схуднеў нябога ўшчэнт —
І выдалі яму
Нарэшце дакумент:

## ГРАМАТА

„Ваўку дазволена
Хадзіць па хатах,
Выпрошваць хлеб
У бедных і багатых..."
У лапе кій дарожны
Ды торба на баку —
І міласціну кожны
Выносіць жабраку:
Хто — хлеб,
Хто — сухары,
Хто — малака гладыш.
Знайшліся і сябры —
Сабака, кошка, мыш.
Ад'еўся воўк, акрэп,
На торбе спіць, а гладкі.
Ды раз ішоў па хлеб
І ў рэчку шухнуў з кладкі.
Прыбег ён да сабакі,
Трасецца ўвесь:
— Бяда!
Сцякае, бачыш,
З граматы вада.
А ваша печ дрыўмі
Напалена дарэчы,
Ты грамату вазьмі
І высушы на печы.
— Не сумнявайся, воўк,
Усё як трэба спорўню.
А ты і сам прамок,
Ідзі сушыцца ў ёўню...
Сабака разаслаў
Лісток на чыстай дошцы
І так пасля сказаў
Сваёй сяброўцы —
Кошцы:
— Як грамата прасохне,
Аддай ваўку, прашу.
А я крыху на соек
За хатай пабрашу...
Лісток пад самым бокам
Духмяным хлебам пах,
І кошка краем вока
Прабегла па складах:
„Ваў-ку даз-во-ле-на
Ха-дзіць па ха-тах,
Вы-прош-ваць хлеб
У бед-ных і ба-га-тых".
Згадала пра абед
І, з'еўшы хлеб да крошкі,
На печы неўпрыкмет
Яна заснула, кошка.
Ударыла спрасонку
Хвастом, як ад спалоху,
І грамата прасохлая
Упала на падлогу.
А тут і мыш бяжыць
У свой куток з-пад жорнаў,
Глядзіць —
Лісток ляжыць
І пахне хлебам чорным.
Не знала: ёй таксама
Лісток ахоўваць трэба —
І згрызла тую грамату
Замест скарынкі хлеба.
У хату воўк ускочыў,
Не дагледзеўшы сну,
Аднак ніхто не хоча
Прызнаць сваю віну.
Надзей няма на цуд:
Ад граматы — ні знаку.
І воўк загнаў у кут,
Трасе найперш сабаку:
— Ах, чортава душа!
За што мяне, старога,
Зарэзаў без нажа,
Як ворага якога?
Без граматы ў сяло
Не пабяжыш па хлеб.
Чытаў, што там было
Напісана?
Ваўку дазволена
Хадзіць па хатах,
Выпрошваць хлеб
У бедных і багатых.
— Мне граматы другой
Не прыстарацца, знаю,
А без яе зімой
Ад голаду сканаю.
— Дар-руй!.. —
Спацеў, аслаб
Збянтэжаны сабака,
І ледзь з-пад воўчых лап
Ён выпаўз, небарака.
Адумаўся:
„З-за кошкі
Такая калатнеча!" —
І на яе ў пакоі
Напаў, сцягнуўшы з печы.
„За што сабака лае?" —
І кошцы крыўдна стала,
Яна ў закутку, злая,
Сама на мыш напала.
А граматы не вернеш —
Згарэла без агню,
І воўк, гаротнік шэры,
Завыў упершыню.
У лапе кій-падмога
Ды торба на баку,
Аднак да хат дарога
Заказана ваўку.
Разбегліся сябры —
Чужыя,
Ледзь жывыя.
І воўк з тае пары
Без хлеба ў лесе вые.

# ВЯСЁЛЫ КУБАЧАК

— Татка, зрабі мне скрыпку.

— Добра, але дзе мне ўзяць струны?

— Дастаць іх з піяніна.

* * *

Настаўнік пытае ў вучня:

— Чаму ты, Валер, хатняга задання не зрабіў?

— Ды я зрабіў бы, але маці падвяла — захварэла.

* * *

— Навошта вы, бабуля, акуляры надзелі? — пытаецца ўнучка.

— А яны, любая мая, павялічваюць усе рэчы.

— А вы, бабуля, іх скіньце, калі будзеце мне адрэзваць пірог.

* * *

— Чаму ты стаіш з заплюшчанымі вачыма перад люстэркам?

— Таму, што хачу ведаць, як я выглядаю, калі сплю.

* * *

— Гадзіннік сапсаваўся. Панясу рамантаваць майстру.

— Тата, не варта несці. Я яго ўчора ўвесь дзень разбіраў, і то нічога не паправіў...

* * *

Унук пытае:

— Дзедку, а табе страшна ноччу вартаваць?

— Страшна, Ваня. Страшна, пакуль не засну.

* * *

— Цёця, адкуль ты нарадзілася?

— Мяне знайшлі ў капусце...

— У кіслай?

* * *

Юрка ідзе з бацькам і пытае:

— Тата, адкуль я ўзяўся?

— Цябе бусел прынёс.

— Тата, а хто цябе прынёс?

— Таксама бусел, — кажа бацька.

— Але хіба ж не адразу?

* * *

— Мама, я хацеў бы мець такую тоўстую скуру, як слон.

— Чаму, сынок мой?

— Бо заўтра тата ідзе на „вывядоўку".

* * *

— Як выглядае гуска? — пытае настаўнік на ўроку заалогіі.

— Калі была дзірка ў гусятніку, тады выглядала, а як тата забіў дзірку дошкай, то ўжо не выглядае, — адказвае вучань.

* * *

— Калі ты нарадзіўся?

— Я зусім не нарадзіўся, бо ў мяне мачыха.

* * *

Малы хлопчык прыйшоў з бацькам у краму. Прадавец звяртаецца да яго:

— Выцягні ручку, то насыплю табе арэхаў.

— Лепш дайце бацьку.

— Пахвальна так любіць бацьку.

— У бацькі большая рука.

* * *

— Ну, сыночак, развітайся з цёткаю! Што кажуць, калі цётка адыходзіць?

— „Дзякуй Богу".

**Падборку зрабіў ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**



# ЮБІЛЕЙНЫЯ РОЗДУМЫ

Няма аднае Вільні. Колькі ў ёй нацыяў, столькі разнавіднасцяў літоўскай сталіцы. Адна з іх — беларуская.

У памятныя, майскія дні святкавання 75-ай гадавіны заснавання Віленскай беларускай гімназіі месцы юбілейных урачыстасцяў куды галасней загучалі крывіцкаю моваю ды сталіся месцам хвалюючых сустрэч былых навучэнцаў пасля дзесяцігоддзяў разлукі, а маладым унушальна даказалі, як неабходныя з'яўляюцца тутака новыя вартасці, каб беларускі летапіс Вільні няспынна ўзбагачаўся чарговымі старонкамі.

Быццам птушкі, вяртаючыся вясенняю парою ў свае гнёзды, так і колішняя вучаніца і вучні паявіліся ў Базыльянскіх мурах, на жаль, толькі на кароткі святочны час. Сагравалiся мы ўспамінамі, быццам маладзелі. Праясніліся твары, а турботы штодзённыя недзе прапалі. Юбілей аказаўся цудоўным лякарствам. Гэтыя муры пяшчотна прытулілі нас як самых блізкіх, дарагіх. Момантамі не верылася, што ўсе мы ізноў у гэтых закутках, што наваколле з'яўляецца рэчаіснасцю, а не сном. Як у далёкім мінулым, дыскрэтна скрыпела пад нашымі нагамі драўляная лесвіца, панаваў добра знаёмы пах нетраў гэтага цэннага памятніка віленскай старадаўнасці. Здавалася, што вось неўзабаве пачуем уласныя звонкія, вясёлыя дзявочыя і хлапечыя галасы.

Усе шчыльна згуртаваліся вакол гэтай беларускай святыні ведаў, жывыя, і тыя, якія хаця ў вечнасці, аднак і надалей у памяці: выкладчыкі, навучэнцы, прыбіральшчыкі.

Падчас багатай мастацкай праграмы прагучалі і няўміраючыя „Зорачкі" на словы Сяргея Новіка-Пяюна, з яго ж музыкаю і ў незабыўным выкананні дуэта Наталлі Нарэйкі (летувіскі) і Лявона Мурашкі. Прыгадаю прынамсі наступныя радкі:

*— Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне*
*У маёй роднай ды далёкай старане?*
*І скажыце, каб не плакаў ні адзін,*
*Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын.*
*Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май.*
*Прылячу, як птушка, ў родны край...*

Пры гэтых словах мацней забіліся сэрцы, павільгатнелі вочы... Агарнулі нас пачуцці, якія немагчыма перадаць прозаю...

Ды прыляцелі мы, каб ужо неўзабаве развітацца. Абяцалі, аднак, адзін аднаму, што не паддамося жыццёвым нягодам, што толькі праз некалькі гадоў, з выпадку 80-годдзя Віленскай беларускай гімназіі, ізноў пабачымся.

У святочных прамовах панаваў асабліва адзін знамянальны акцэнт: руплівасць нас, ветэранаў, пра сучасных навучэнцаў, каб сталіся яны надзейнымі прадаўжальнікамі нашых традыцый. З'явіліся ж першыя класы адроджанай Віленскай беларускай гімназіі, аднак у іншым ужо месцы горада. А жменька вучаніц і вучняў спадарожнічала нам не толькі ў час афіцыйнай часткі юбілею, але таксама на Росах і Ліпаўцы, дзе мы ўскладалі кветкі на магілах выкладчыкаў і навучэнцаў гімназіі.

Сапраўднымі жамчужынамі для мяне былі прысутныя на ўрачыстасці аднакласніцы Галя Война, дачка Зоські Верас і жонка Лявона Луцкевіча, а таксама Соня Сіняўская, па мужу Тулейка; на жаль, не жыве ён, наш аднакласнік.

Сярод афіцыяльных выступленняў было і маё. Сказаныя словы прысвяціў я светлай памяці апошняга дырэктара Віленскай беларускай гімназіі, праф. Францішку Грышкевічу, яшчэ мацней адчуваючы ягоную духоўную прысутнасць, як адчуваю яе дзесяцігоддзямі. Яму галоўным чынам заўдзячваю сувязь з беларускасцю.

У час святочных мерапрыемстваў запрапанаваў я выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры, Яніне Садоўскай, каб наладзілі мне сустрэчу з гімназістамі. Яна і адбылася пасля юбілею. Вельмі добра адчуваў я сябе сярод беларускай моладзі, з якой дзяліўся ўспамінамі аб журналісцкім жыцці як колішні супрацоўнік „Нівы".

Першыя сяброўскія кантакты з настаўнікамі сталіся фактам, перад усім з Я. Садоўскаю і выкладчыкам біялогіі, Паўлам Саўчанкам. Дарэчы, услухоўваючыся ў іх мову, якая цешыла вуха незвычайнай меладычнай полацкай фонікай, я быў проста заваражаны. П. Саўчанка марыць пабываць на Беласточчыне, на сёлетнім з'ездзе беларускіх настаўнікаў; гэта для яго жыццёвая справа, таму што ў творчым плане мае ён выданне альбома-хронікі аднаўленага беларускага школьніцтва ў краінах яго існавання.

Вяртаюся, аднак, да асобы Я. Садоўскай. Даведаўся я, што наступны навучальны год на яе ўроках пачнецца з вывучэння творчай спадчыны Францішка Багушэвіча. Выказаў я жаданне расказаць гімназістам пра сустрэчы з унучкамі аўтара „Дудкі беларускай"; калісь у „Ніве" друкавалася гэта абшырнае з імі інтэрв'ю. Прыгадваю прынамсі тыя факты, мэтанакіравана так робячы. Наладжанне ж больш шчыльных кантактаў паміж беларускім школьніцтвам Вільні і Беласточчыны напэўна з цягам часу акажацца ўзаемакарысным. Выявіў я ахвоту неаднаразова яшчэ сустрэцца з гімназістамі ў Вільні, каб упрытык з праграмаю па гісторыі літаратуры расказаць пра мае знаходкі ў архівах і бібліятэчных аддзелах дагэтуль невядомых рукапісаў, унікальных матэрыялаў аб беларуска-польскіх літаратурных ды ўвогуле культурных кантактах на пераломе XIX і XX стагоддзяў.

Так, не было б зусім гэтых радкоў і маіх жаданняў з думкаю аб беларускіх віленскіх навучэнцах 90-х гадоў, каб не праф. Ф. Грышкевіч і яго ўздзеянне на мяне. Прафесар чытаў нам лекцыі па беларускай літаратуры.

Пераемнасць пакаленняў — вялікая справа! Калі мы даўжэй затрымаліся пры магілах на Літаратурнай горцы, на Росах, дзе сімвалічна пахаваны Беларуская Адраджэнцы, дык адчувалі іх наказ... Можна быць упэўненым, што яшчэ закрасуе чысцюсенькаю беларускасцю Вільня.

Да наступнага юбілею, дарагія мае ўсе! Вялікае дзякуй Арганізатарам урачыстасцей за майскія перажыванні, за Вашыя добрыя крывіцкія сэрцы!

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ,**
**Сопат**

# ДУХ ВІСЛЫ Ў МЕНСКУ

Нядаўна ў менскай Бібліятэцы Акадэміі навук зачынілася выстаўка „Сучасная польская кніга". Польскае Міністэрства культуры разам з іншымі дабрадзеямі падаравала гэтай вялікай бібліятэцы 1 300 кніг на польскай мове, выбраных з 50 выдавецтваў. Выдадзены быў плакат на двух мовах, а для настрою ў зале іграў струнны квартэт.

Кнігі былі ў большасці пра гісторыю, архітэктуру і прыроду Польшчы, пекна аформленыя, каляровыя. На выстаўку першымі прыйшлі палякі, якіх нямала жыве ў сталіцы Беларусі, і перш за ўсё яны будуць пастаяннымі чытачамі.

Ёсць пытанне, што трэба ўчыніць, каб польская кніга была даступная беларусам на роўні з рускай. Думаю, што трэба, каб і ў кнігарнях знайшлося для яе месца. Галоўная праблема — розніца ў цэнах. Дзеля таго Польшча будзе **датаваць** свае кнігі ў Менску, а гэта значыць, што іх цана будзе паніжана ў **дзесяць разоў**! Гэта істотнае таму, што многія тэмы былі забаронены ў таталітарных дзяржавах, а шмат кніг не краналіся па розных прычынах. А польскую мову ў Беларусі шмат хто ведае.

Ёсць у мяне такая думка, каб у Беластоку зрабіць рэтраспектыўную выстаўку праваслаўных кніг на польскай мове. Якраз а. Рыгор Сасна ў Рыбалах выдае сваю самую вялікую бібліяграфію (кніг і артыкулаў) — „Bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne za pięćdziesięciolecie 1944—1993", амаль 500 старонак, асноўны дапаможнік у такой справе. Можна было б паказаць кнігі, ксерографічныя адбіткі артыкулаў, часопісы — „Przegląd Prawosławny", „Wiadomości Bractwa", „Czasopis", „Łampada", „Gazeta Festiwalowa" (Hajnówka), „Над Бугом і Нарвою", „Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego" і да таго падобнае. Бо ж не ўсе пра гэта ведаюць, асабліва каталікі. На варшаўскую мітраполію нельга разлічваць, гэтым можа заняцца Брацтва. І выстаўка павінна быць у нейкай чытальні, даступнай для ўсіх. Гэтую ж выстаўку варта было б паказаць і ў Гародні, і ў Бярэсці, дзе вельмі вялікі недахоп такога тыпу літаратуры. Жывем у такі час, калі абмен інфармацый расце з кожным днём. Давайце, не будзем апошнімі ў гэтай справе!

**СЭРАФІН КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ**

# ЛЁНІК У „АРСЕНАЛЕ"

Усё ж такі, што ні гавары, але фільма пра беластоцкіх мастакоў у нас яшчэ не паказвалі. А тут — на табе! Бюро мастацкіх выставак у Беластоку — у рамках прэзентацыі сучаснага мастацтва — наладжвае сустрэчу з Лёнікам Тарасэвічам, спалучаную з паказам фільма „Тарасэвіч" Габрыэлі Кардацца (Венецыя, галерэя дэль Кавэліна).

29 мая ляцела я, як на крылах, на гэту сустрэчу — галоўным чынам дзеля фільма, бо з Лёнікам маю нагоду сустракацца даволі часта.

Залка ў „Арсенале", дзе стаяў тэлевізар і дэманстраваўся фільм, была сапраўды перапоўнена, але ў асноўным вучнямі мастацкага ліцэя. Што датычыць беларускіх дзеячоў — дык заўважыла я ўсяго Сакрата Яновіча з жонкай. А і прадстаўнікоў даволі шматлікага мастацкага асяроддзя Беластока (нешта каля сотні) было ўсяго некалькі.

Але фільм робіць вялікае ўражанне. Аўтарка імкнецца знайсці прычыну Лёнікавых інспірацый. Тая зямля, на якой сядзіць Лёнік, толькі бяздарнаму чалавеку магла б здавацца шэрай і нецікавай. Хаця далёка яна ад вялікіх гарадскіх цэнтраў, то не пустэча яна, о не! Усё тут у вечным руху, зямля дыхае, лес жыве, сава крычыць — прырода перапоўнена гукамі і ўнутранай музыкай. Тут нават цішыня звініць драматычным звонам.

І ўсё гэта бачыць Лёнік і пераносіць на свае палотны. І тыя скібы разаранай зямлі, і лес, і снег. Робіць гэта так, як бачыць, як адчувае. Вядома, мог бы намаляваць і хату, чаму не! Але для Лёніка Тарасэвіча пунктам нумар адзін з'яўляецца зямля, на якой ён нарадзіўся і жыве.

Дыскусія пасля фільма не ўнесла шмат новага. Частка прысутных адразу пасля фільма ўстала і выйшла. Мо ўсё ўжо яны зразумелі...

У дыскусіі найбольш гаворыць нейкі мастак, які дэкларуе сябе Лёнікавым сябрам дзяцінства. Гаворыць не надта з сэнсам, быццам хочучы ўкалоць Лёніка. Стаяўшы каля мяне крытык мастацтва шэпча мне на вуха: „Бо той робіць, а гэты — не!"

Лёнік не апраўдваўся. Гаворыць, што ў фільме — ён толькі прычына, бо аўтарка яго тут не ўсхваляе. Не ўмеў бы сам раскласці па палічках сваю творчасць. Зразумейце, гэта не пейзаж stricto, а толькі прысутнасць пейзажу. Мастацтва — гэта мысленне. Свет, які



*Лёнік на фоне сваёй карціны, якая прэзентавалася ў галерэі "Арсенал". Мяркую, што прадстаўляе яна ўзаранае поле. Лёнікавы карціны, як вядома, назваў не маюць. Глядзі, маўляў, і чытай!*

ён паказвае, можа больш універсальны, і таму лепш успрымаецца ў іншых краінах.

Больш гаварыў ён пра польскае мастацтва 80-х гадоў і сённяшняе. 80-ыя гады былі павярхоўныя, крыклівыя. Прыйшоў час, калі некаторыя хлопцы-мастакі выцішылі свой свет і малююць дзве карціны ў год. А тады была масоўка! Па часе рамантызму людзі хочуць ствараць канструктыўную вартасць.

Лёнік не лічыць, што ў мастацтве наступіў крызіс. У Беластоку, наадварот, бачыць рэнесанс. Вельмі шкадуе, што няма тут галерэі, якая рабіла б прамоцыю мастацтва. У Беластоку паказваюць ужо вядомае мастацтва, а галерэя павінна была б выконваць ролю папулярызатара.

Падаўся быў у дыскутанты і Сакрат. Сцвердзіў, што гэтыя колеры ў нечым яму падабаюцца, але не ведае ў чым. Не прападае за мастацтвам, але прыходзіць да калег. Толькі пачаў навязваць да роднасці душ — мастакоў і літаратараў — і, пэўна, хацеў сказаць, чаму Лёнік яму блізкі, — як „сябра дзяцінства" не вытрымаў і перарваў яго, і Сакрат, зрэзыгнаваны, махнуў рукою.

Я свайго пытання Лёніку пры ўсіх не задала. А вельмі ж хацелася ведаць, чаму не паявілася тут так званае „асяроддзе". Пазней спыталася, а Лёнік, скромна:

— Відаць, ім маё мастацтва не падабаецца.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**

# СЯРОД ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ

Чытачы „Нівы" не раз мелі прыемнасць чытаць бытавыя гумарэскі, гісторыі з жыцця-быцця, падпісаныя псеўданімам „Ніяк". Гэтаму аўтару належацца, урэшце, славутыя „Бабскія фокусы". І мне таксама пашчасцілася пазнаёміцца з аўтарам гэтых цікавых публікацый Эдвардам Шчасновічам.

Нарадзіўся ён у 1912 г. у сям'і Саламеі і Яна Паніквіцкіх у вёсцы Шчасновічы, што ў Шудзялаўскай гміне. У адказ на пытанне пра іншае, чым у бацькоў прозвішча і яго супадзенне з назвай мясцовасці, я пачула цікавае апавяданне:

— Бацька мой вельмі любіў сам выпіць і кума таксама напаіў. Як заехалі хрысціць, а хрысцілі ў Адэльску (зараз касцёл маем у Шудзялаве), то кум з воза не даў рады злезці. А кума, як кума, узяла і панесла дзіця. Ксёндз пагдядзеў і пытаецца: „А дзе ваш кум?" „Во ляжыць на возе", — сказала вінавата кабета і дадала: „Як гэта будзе?" Замест п'янага кума арганісты мяне патрымаў (як хрысцяць хлопца то трэба, каб мужчына трымаў). І пакуль ісці да войска, то я называўся Эдвард Паніквіцкі. Як прыйшла павестка ў войска, то прыходзіць солтыс і кажа бацьку: „Ты знаеш, што твой Эдзько не Паніквіцкі, а Шчасновіч?" „Чаго гэто так?" — здзівіўся мой бацька. „А, так! Бацька Ян, матка Саламея, а ў вёсцы такіх больш няма". І тады хрышчона матуля расказала, як гэта было пры хрысце. І ад таго часу я стаўся Шчасновічам. Потым бацька кажа: „Як хочаш, то давай грошы і я паеду ў біскупію курыю і пераробім на Паніквіцкі". Трэба было 30 злотых заплаціць. А я кажу: „Малая бяда. Яшчэ грошы буду аддаваць!" Так і застаўся я Шчасновічам.

Вёска Шчасновічы нібыта лічыцца шляхецкай. Бо Шчасновічы — гэта „аколіца", не вёска. У нас гаворацъ так: дзе шляхта, то ўжо аколіца, а дзе мужыкі, то там вёска. І кругом: Кнышэвічы, Бабікі, Сухінічы, гэта ўжо вёскі (*смяецца*).

*— А вы з шляхцянкай ажаніліся?*

— Яна з калёніі, то знаеце, ні мужык, ні шляхта. Яе прозвішча па бацьку Сянкевіч. З Вярхлесся.

*— На якой мове людзі тут размаўляюць?*

— Па-просту, такім простым языком усе гавораць, у нас мало „пульшчаць". Па-беларуску не гавораць. Там, дзе праваслаўныя жывуць, там ужо па-беларуску (*хачу паясніць, што мову спадара Шчасновіча я запісала ў арыгінале — аўтар*).

*— Як вы навучыліся літаратурнай беларускай мове?*

— Праваслаўныя літары я пазнаў у дзяцінстве. Мой дзядзька ўмеў чытаць праваслаўныя святыя кнігі і мне тады прысвоіў гэты алфавіт. А так, сам навучыўся. Бо беларускай мовы ў школах тут ніколі не вучылі. Ад 1957 года я працаваў на пошце ў Бабіках. Спачатку быў лістаносам, а пазней начальнікам пошты. Тады „Ніва" прыходзіла на пошту і я ўсё думаў, як гэта навучыцца чытаць па-беларуску. І памаленьку, памаленьку чытаў. Ужо калі навучыўся добра чытаць, то думаю: ці карэспандэнтам не магу я быць? Давай пісаць. Напісаў і мяне пачалі друкаваць. Я любіў апісваць усякія фокусы. Усяляк падпісваў свае апавяданні, але найбольш „Ніяк". А чаму так? Бо гэта яшчэ такая адна гісторыя. Калі я быў у Яна Тарасевіча на службе, то ездзіў з панам у Саколку. Там мы заязджалі на падворак аднаго жыда, каб паставіць каня. І той жыд раз мяне пытае: „Як ты называешся?" А я кажу яму: „Ніяк". Гэты жыд заўсёды называў мяне „Ніяк" (*гісторыя здарылася ў 1932 годзе, калі Эдвард Шчасновіч быў парабкам у зямляніна, музыкі Яна Тарасевіча, пра якога я збіраю матэрыял — аўт.*). Але ў нашай вёсцы і аколіцы ведаюць, што я пішу ў „Ніву". Праўда, у вёсцы ніхто апрача мяне па-беларуску чытаць не ўмее, але людзі цікавяцца. Я часам вазьму газету і сам ім чытаю. Для жонкі чытаю, бо ўсё для яе цікава. Што ў „Ніве" напісана, усё цікава. Пра рэлігію, пра святых, ад дошкі да дошкі ўсё чытаю.

Спадару Эдварду Шчасновічу на ўсё жыццё запамяталася „Лявоніха".

— Якраз прыехала яна з канцэртам у Бабікі. У гэтым ансамблі мне вельмі спадабалася адна паненка (*смяецца*). От, была мне пекная дзяўчына. Я думаю сабе: чаму такая ж прыгожая? Так мне якась падабалася з вачэй, з усяго. Усе былі пекныя, але тая мне найбольш падабалася. Яны ўжо як селі ў аўтобус, ад'язджаць, то мне шкада было. То я за імі на матацыкле ехаў. Толькі не ведаю, як яна называлася (*смяецца*). Я ўстыдаўся да яе не падысці і пагаварыць. Бо, ведаеце, жанаты быў, то што каму ў галаве заварочваць.



*Эдвард Шчасновіч са Шчасновіч.*

Гэтая гісторыя гаворыць аб чалавеку найбольш. Сустрэча з аўтарам цікавых гісторый пераканала мяне і ў тым, што ў спадара Шчасновіча паэтычная душа, вялікая чалавечая цеплыня, вечна малады дух і лёгкі, небанальны гумар. Захапіла мяне таксама вялікая гасціннасць і сардэчнасць цёткі Галены (жонкі спадара Эдварда), якая, нагул, характэрная ўсім жыхарам Сакольшчыны.

* * *

Шчасновічы налічваюць сёння 9 хат. Большасць жыхароў „аколіцы" пражывае на хутарах. Тут, як амаль у кожнай вёсцы Сакольшчыны, засталіся старыя людзі. Толькі ў двух сем'ях дзеткі школьнага ўзросту. Ходзяць яны ў школу ў Бабіках, дзве вярсты ад Шчасновіч. У вёсцы няма магазіна. Два разы ў тыдзень прыязджае сюды аўтакрама. У Саколку адсюль 20 км, у Шудзялава — 7, а да мяжы з Беларуссю —10.

За вёскай, на ўзгорку віднее вятрак, які зараз ужо не працуе. У Шчасновічах існуе 3 „колы ружанцовы" — для жанчын, мужчын і моладзі. Людзі тут прыдаюць вялікае значэнне, павагу і пашану рэлігіі і касцёлу. Варта адзначыць, што тут захавалася чыстая беларуская (амаль літаратурная) мова. На жаль, мае яна ранг вясковага „простага языка".

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

## ЯКОЕ МЕСЦА НА КАРЦЕ НАШАЙ АЙЧЫНЫ, ПОЛЬШЧЫ ТАБЕ НАЙБОЛЬШ МІЛАЕ І ДАРАГОЕ? ЧАМУ?

*(фрагменты вучнёўскіх прац; працяг з папярэдняга нумара)*

Дарагім месцам на карце нашай краі-ны, Польшчы, ёсць для мне Беласточчына. Яна мне вельмі блізкая таму, што ад дзядоў і прадзедаў жыве тут мая сям'я. Але самым дарагім месцам з'яўляецца для мне мая вёска — Махнатае. Гэта мясцовасць, у якой я нарадзілася і вырасла. Яна для мне спалучаецца з найбольш цікавымі хвілінамі майго жыцця. Мае бацькі таксама паходзяць з гэтай вёскі, для іх гэтая мясцовасць таксама найдаражэйшая. Мая вёска вельмі прыгожая і вялікая. У ёй жывуць дарагія майму сэрцу людзі, дзякуючы якім я пазнаю жыццё, выхавалася і вельмі многаму ў жыцці навучылася. Кожны куточак мне тут мілы, дарагі. Мясціны не сустрэлая я ў жыцці ніводнае, якая б мне была хоць крыху даражэй. Тут я выхавалася, стала першыя крокі, навучылася вымаўляць першыя словы, пазнала дарагую маім бацькам беларускую мову, і таму, куды б мяне лёс не закінуў, я назаўсёды захаваю яе ў глыбі грудзей сваіх. Усе беларускія людзі павінны сваю мову перадаць наступным пакаленням.

Нашы людзі — праваслаўнай веры, і таму мы вельмі шчыра шануем і перадаем традыцыю нашых свят. У маёй вёсцы захаваўся яшчэ абрад каляравання на свята Раждджаства Хрыстова, а ў іншых мясцінах ужо ён занікае.

Людзі ў маёй вёсцы вельмі працавітыя. Яны дбаюць пра выгляд панадворкаў і хат. Перад кожным домам ёсць невялікі агародчык, які летам цвіце і ад гэтых кветак наша вёска становіцца яшчэ прыгажэйшай, разнакалернай.

Да роднай сям'і родных мясцін я заўсёды буду вяртацца ў думках. Ніколі не забуду цёплай усмешкі маёй мамы, яе знішчаных працай рук і заўсёды вясёлага позірку вачэй. Не забуду сваіх бацькоў, якія мяне выхавалі і пусцілі ў свет.

* * *

Для мяне найдаражэйшым месцам з'яўляецца мая вёска Вітава. Яна невялікая, бо налічвае толькі сто дваццаць жыхароў, але жыць тут вельмі прыемна. У Вітаве вельмі ціха, спакойна і, па-мойму, добра, тут ніхто не бурыць гэтага асаблівага настрою. Большасць жыхароў гэта пенсіянеры, гаспадароў вельмі мала; маладыя людзі ўцяклі ў горад, каб засмакаваць лепшага жыцця. У вёску даўно зайшла цывілізацыя: ёсць клуб (колішняя пачатковая школа), водаправод, магазін. З усіх бакоў вёску акружае Белавежская пушча, праз якую праплывае маленькая рэчка Орля.

Наша Белавежская пушча — найстарэйшы запаведнік у Польшчы. Сюды прыязджаюць турысты з усяго свету, каб пабачыць зуброў, баброў, дзікаў, чорных буслоў і іншых звяроў. Толькі ў нашай пушчы можна падыхаць яшчэ чыстым паветрам, пачуць прыгожы спеў птушак і добра адпачыць. Нідзе ў Польшчы няма такога заходу сонца і так страшнай навальніцы. А як прыгожа тут зімой!

Гэту цудоўную прыродную панараму дапаўняюць нашы маленькія вёскі, якіх чароўнасць заключаецца ў тым, што пануе ў іх асабліва прыемны настрой. Яны таксама з'яўляюцца цэнтрамі народнага мастацтва і нашых беларускіх традыцый. І таму трэба змагацца за тое, каб нашы вёскі зусім не апусцелі, а пражылі яшчэ многія стагоддзі.

Як прыгожа людзі святкуюць тут Вялікдзень, Новы год, Нараджэнне Хрыста (Руздво)! На Вялікдзень людзі фарбуюць яйкі, пякуць пасху, якія потым свяцяць у царкве. На Руздво ў хаце ставяць ёлку, ад хаты да хаты ходзяць калядніxі, якія спяваюць прыгожыя калядкі і жартоўна віншуюць з Новым годам. Але найпрыгажэйшым элементам гэтага вялікага свята з'яўляецца Каляда. У гэты дзень людзі чакаюць першай зоркі, каб сесці за супольнай вячэры з дванаццаці посных страў. Таксама вельмі вясёлае святкаванне Новага года, асабліва для маладых людзей. Роўна ў дванаццаць гадзін ночы яны варожаць, каб даведацца, што іх спаткае ў будучыні. Вельмі эмацыянальна ставяцца да гэтага дзяўчаты, якія хочуць пры дапамозе варажбы ўбачыць свайго будучага мужа і даведацца, калі іх вяселле. Неразрыўным элементам усіх свят з'яўляецца Царква, якая аб'ядноўвае ўсіх праваслаўных людзей. Царква — гэта таксама помнік духоўнай культуры. Кожны можа да яе прыйсці памаліцца і заўсёды знойдзе ў ёй духоўную падтрымку. У царкве — у час свят — людзі забываюць пра злосць і несправядлівасць.

Я ганаруся тым, што жыву на Беласточчыне, таму што гэта краіна багатая духоўна і культурна. Тут ад вякоў жылі мае продкі і таму я адчуваю вельмі глыбокую сувязь з гэтай зямлёй.

*(працяг будзе)*

**Да друку падрыхтаваў**
**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ**

## ТАЯМНІЦА МОГІЛЬНІКА

Непадалёк Кузавы, што ў Чаромхаўскай гміне, у сасновым лесе каля дарогі, якая вядзе ва ўрочышча „Ракітнае", знаходзіцца могільнік. У дзяцінстве, збіраючы грыбы, неаднойчы я праходзіў побач гэтых магілак. Паіржавелы калючы дрот на бетонных стаўбах абмшэлай агароджы, нізенькія бугаркі магіл — гэта вобраз, які многія гады даводзілася бачыць у гэтым месцы.

Ніхто з жыхароў Кузавы не апекаваўся і не цікавіўся забытым могільнікам. Старажылы казалі, што на ім пахаваны астанкі нямецкіх салдат з І сусветнай вайны, і таму называлі яго нямецкім.

У палове васьмідзесятых гадоў могільнікам сталі апекавацца вучні Пачатковай школы ў Чаромсе, а ў мінулым годзе далучылася да іх і Гмінная ўправа. Аднавілі агароджу, добраўпарадкавалі паасобныя магілы — іх тут трыццаць. Зрабіў гэта ўсё працаўнік Гміны Мікалай Саевіч.

Колькі салдат пахаваных на могільніку каля Кузавы і калі яны загінулі? Гэта таямніца святой зямлі. Нават 92-гадовая Анастасія Раманчук не змагла адказаць на гэтыя пытанні. Адзіны крыж на могільніку, пастаўлены 18 жніўня 1941 года жыхарамі Кузавы Мікалем Андрэевічам і Іванам Афанасевічам Раманчукамі напамінае, што пакояцца тут загінуўшыя салдаты, якіх імёны дагэтуль застаюцца невядомымі.

**УЛ. СІДАРУК**

# З МІНУЛАГА НАРАЎКІ І АКОЛІЦ

## Частка V

*(заканчэнне)*

### Гісторыя аднаго праваслаўнага прыхода

У кожнай мясцовасці своя гісторыя. Цікавае было мінулае Ляўкоўскага праваслаўнага прыхода, якое даследаваў а. Рыгор Сасна.

Вёска Старое Ляўкова знаходзіцца на правым беразе ракі Нараўкі (левы прыток Нарвы). У ёй ёсць царква святых апосталаў Пятра і Паўла, школа, у якой, між іншым, дзеці вучацца беларускай мове. Жыхары гавораць на беларускім дыялекце вельмі блізкім да беларускай літаратурнай мовы. Пасяленне Ляўкова (назва прыналежная ад асабовай Ляўко; ад царкоўнага імя Леў, Лявонцій) і царква былі заснаваны ў XVI стагоддзі. Уладальнікамі, між іншым, фальварка Нараўка — Ляўкова былі ў XVI і да канца першай паловы XVIII стагоддзяў князі Масальскія: Фёдар, Зыгмунт, Андрэй, Станіслаў, Міхал, Ян і Казімір. З рукапісных гістарычных крыніц пра Ляўкова вядома было ў 1634 годзе.

Да Ляўкоўскага прыхода даўнымдаўно належалі вёскі: Ляўкова, Лука, Гарадзіска і Семяноўка. Царква была драўляная, з прыгожым крыжам на высокім купале. Апрача таго былі дзве мансарды, над якімі таксама былі купалы але без крыжоў. Храм меў пятнаццаць вокнаў. Званіца стаяла асобна ад царквы. Захаваўся дакумент ад 1727 года з апісаннем Ляўкоўскага прыхадскога храма. Настаяцелем яго ў той час быў а. Геранім Кавалеўскі.

У 1847 годзе ў Ляўкоўскім прыходзе пражывала 2 046 чалавек, у тым 1 007 мужчын і 1 039 жанчын. У 1853 годзе на могільніку пабудавалі капліцу. У 1869 годзе прыход быў падзелены на дзве часткі — выдзеліўся Нараўчанскі прыход. Царкву ў Нараўцы пабудавалі ў 1794 годзе.

У 1861 годзе ў Старым Ляўкове пабудавалі дом для псаломшчыка і ў 1871 годзе — для прыхадскога настаяцеля. У перыяд 1864—1913 гадоў храм пастаянна ўзбагачаўся рознымі прадметнымі ахвяраваннямі ды ўсім неабходным аснашчэннем. У 1914 годзе дах царквы пакрылі бляхай.

У канцы 1875 года Ляўкоўскі прыход налічваў адзінаццаць вёсак: Старое Ляўкова, Новае Ляўкова, Лешукі, Міхнаўка, Слабодка, Лука, Бярнацкі Мост, Падляўкова (Галубы), Сушчы Барок, Ахрымы і Капітаншчына. Пражывала ў ім каля 1 300 чалавек. На працягу чарговых дваццаці гадоў колькасць прыхаджан павялічылася на пяцьсот душ. Пры царкве вяло сваю актыўную дзейнасць царкоўнае брацтва.

У 1861—1896 гадах у Ляўкоўскім прыходзе дзеці вучыліся ў школах граматы ў Ляўкове, Луцэ і ў Слабодцы. Заняткі адбываліся ў царкоўнай старажоўцы і ў прыватных памяшканнях. Міністэрства асветы мела таксама сваю школу — народнае вучылішча, у якім займаліся 54 юнакі і толькі шэсць дзяўчат. Настаўнічалі ў ім дачка мясцовага святара Анна і сам святар Васіль Краскоўскі.

Напрыканцы XIX стагоддзя ў Ляўкове было 36 дамоў і 282 чалавекі, у Лешуках — 25 дамоў і 214 асоб, у Луцэ — 62 дамы і 536 жыхароў, у Ахрымах — 23 дамы і 171 асоба, у Міхнаўцы — 17 дамоў і 128 чалавек, у Слабодцы — 15 хатаў ды 122 мужчын і жанчын, у Капітаншчыне — 14 дамоў і 101 чалавек, у Падляўкове — 7 хат і 46 асоб, у Бярнацкім Мосце — 4 хаты і 25 чалавек, у Цэрамках — 4 дамы і 16 асоб, у Бакавым — 4 хаты і 36 асоб ды ў Кардоне — 2 дамы і 11 чалавек.

У 1905 годзе дзейнічала адна царкоўна-прыхадская школа (вучыліся ў ёй 40 дзяцей) і адно народнае вучылішча (59 школьнікаў). Прыход налічваў 2 020 вернікаў, у тым 1 022 мужчын і 998 жанчын. Яшчэ перад 1900 годам уладальнікамі Ляўкова былі Юлья і Юзэф Падчадцы, затым ужо іншыя — Каменскія. Апошнія апрача зямлі мелі вадзяны млын і фальварак.

У першую сусветную вайну ў выніку масавай эвакуацыі шматлікія тутэйшыя жыхары апынуліся ў Расіі. У кожнай праваслаўнай вёсцы царскія эмісары даказвалі, што немцы рэжуць, гвалцяць, мучаць мірнае насельніцтва і, каб пазбегчы такога кашмару, трэба ўцякаць у глыб Расіі. Сотні вазоў на дараўляных колах рушылі на ўсход, везучы невялікую частку дабра, накопленага пакаленнямі. Зямля без гаспадароў зарастала зеллем і хмызняком. Назад у свае родныя аколіцы бежанцы вярталіся ў 1919—1921 гадах.

У 1921 годзе храм абгарадзілі драўляным плотам, а дах царквы пакрылі новай гонтай.

У 1920 годзе была ліквідавана беларуская школа ў Старым Ляўкове. Бацькі выступалі супраць паланізатарскай палітыкі санацыйнага ўрада. У 1924 годзе яны не пусцілі сваіх дзяцей у школу. Сяляне жылі ў вялікай нястачы. Бацькі не мелі грошай, каб купіць сваім дзецям вопратку і абутак, не гаворачы пра падручнікі, без якіх не абысціся ў школе. Зімою ў школе было холадна, не было чым паліць у печах. Вучням даводзілася мерзнуць падчас заняткаў на ўроках.

У 1925 годзе прыход налічваў 902 мужчын і 926 жанчын.

У часе другой сусветнай вайны немцы пацыфікавалі вёскі ў Ляўкоўскай акрузе. Высялялі жыхароў перш-наперш пушчанскіх вёсак. Яны апасаліся, што дойдзе да супрацоўніцтва таго ж насельніцтва з савецкімі партызанамі. Маладых юнакоў і дзяўчат вывозілі на прымусовую працу ў Нямеччыну.

У ліпені 1941 года спацыфікавалі дзве вёскі: Новае Ляўкова (у ёй пражывала 280 чалавек) і Бярнацкі Мост (66 жыхароў), а ў верасні таго ж года падобны лёс спаткаў 80 жыхароў Слабодкі і 35 жыхароў Падляўкова. У сакавіку 1942 года выселілі 170 міхнаўцоў і каля 350 лешукоў. У чэрвені 1942 года немцы спацыфікавалі Капітаншчыну (100) і ў жніўні таго ж года — Ахрымы (280). Пасля вайны гэтыя вёскі былі адбудаваны.

У пасляваенныя гады да існуючай царквы дабудавалі званіцу, ад вуліцы. Раней яна стаяла з боку храма. На тэрыторыі прыхода знаходзіцца пятнаццаць вёсак і прысёлкаў. Шкада, што да нашых дзён не захаваліся метрычныя кнігі з 1744 года пачынаючы. Перахоўваліся іх копіі ў царкве.

Варта адзначыць, што ў манаграфічным апісанні Ляўкоўскага прыхода а. Рыгорам Сасной ёсць багатая інфармацыя пра прыхадскі клір у Ляўкове ў XIX стагоддзі і па сённяшні дзень, можам пазнаёміцца з прозвішчамі псаломшчыкаў (ад 1865 года да сёння) і пазнаць прозвішчы царкоўных старастаў ад 1871 года.

Час бяжыць. Зараз вёскі Старое Ляўкова і Новае Ляўкова — адны з большых у Нараўчанскай гміне. У 1990 годзе ў іх пражывала 750 чалавек. У той самы час Нараўка налічвала 783 жыхароў, але ж яна з давен-даўна была мястэчкам і ў 1921 годзе пражывала тут 1 205 чалавек.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




### Муж-небарак

Жылі чалавек і жонка.
Была ў іх адна скарбонка.
Дбалі, гаспадарылі —
Пра будучыню марылі.

Скарбонка-кашалёк
Паставіла ім дварок.
Гэта іх праца, ашчаднасць,
Планаванне, разважнасць.

Грашамі не дзяліліся,
Між сабою мірыліся.
Паставілі клуню, абору
Згодна, без раздору.

Прыждалі дзетак, гадавалі,
Пасля дочак замуж павыдавалі.
Сыноў не мелі, Божая воля.
Такая чалавечая доля.

Зяці былі няпрэнныя —
Умелыя, сумленныя,
Дочанькі былі рады.
Скора пакуплялі „Лады".

Муж і жонка вялі гаспадарку
Змеханізаваную, з „маркай".
Усё ішло дасканала,
Пакуль бяда іх не спаткала.

Аднойчы муж прачнуўся,
Да жонкі рукой дакрануўся
Ды жахнуўся: цела роднае
Было дзіўнае, халоднае.

Падняў ён істэрыку, крык,
Ад чаго даўно ўжо адвык.
Збегліся суседзі, знаёмыя,
З'ехаліся і ўсе родныя.

Жонка на сэрца памерла,
Было пахаванне, вячэра.
І сам удавец астаўся б,
Каб д'ябал не ўмяшаўся.

Муж распіўся як валацуга:
Гарэлка ў яго — хлеб, паслуга.
Зруйнаваў ён сваю гаспадарку,
Пакінуў адну, каля плота, жняярку —

Паламаную і разбітую,
І клуню ўжо раскрытую.
Цяпер ён амаль жабрак —
Наш мужык-небарак.

Нездарма гавораць: жонка трымае
Тры вуглы ў хаце; прэстыж падымае.
Муж трымае адно;
Не ўтрымае — пойдзе на дно.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XIII

Мы ўжо сказалі, што амерыканская рэчаіснасць не ўліласа шырокім струменем у творчасць паэта. І гэта праўда. Сказанае аднак не значыць, што Уладзімір Клішэвіч аставаўся глухі і сляпы на амерыканскія рэаліі. Амерыка ўвайшла ў яго вершы і гэтым самым напрошваецца пытанне: якім чынам, у якім аспекце і ў якой трактоўцы?

Два гады пасля пераезду з Германіі ў Амерыку Клішэвіч піша верш без загалоўка, які пачынаецца ад слоў: „Што на свеце людскія ахвяры". Твор гэты адносіцца, несумненна, да Амерыкі, а гаворачы больш канкрэтна, да ягонага бытавання ў гэтай краіне. Паслухайма аўтара:

*Што на свеце людскія ахвяры,*
*Да ўсяго я на свеце прывык.*
*Голас мой у духовай Сахары —*
*Прадсмяротны апошні крык.*
*Мне ўсяроўна куды не ідзем мы,*
*Над усім стаўлю кропку адну.*
*Чую, мне пахавальнік знаёмы*
*Забівае цвікі у труну.*
*Што з таго, што калісьці я марыў,*
*Безнадзейна мой промень знік.*
*Голас мой у духовай Сахары —*
*Прадсмяротны апошні крык.*

Так, так! Было гэта выразнае і адназначнае абвінавачванне Амерыкі. Напрошваецца пытанне: чым вытлумачыць такую катастрафічную ацэнку амерыканскай рэчаіснасці? Дакладна адказаць нельга. Аднак няма сумненяў, што не матэрыльная бяда паэта была прычынай такога глыбокага ўпадку яго духа. У гэты час паэт ужо ўладкаваўся матэрыяльна і жыў на добрым узроўні. З гэтага вынікае, што прычыну трэба шукаць у амерыканскай духоўнасці, якая выразна не адпавядала Уладзіміру Клішэвічу. Зрэшты, не трэба гуляць тут у здагадкі — паэт адназначна гаворыць аб „духовай Сахары", маючы на думцы тую рэчаіснасць, у якую ён трапіў у Амерыцы. Нягледзячы на поўнае права кожнага паэта на смутак і песімізм, мусім, аднак, сказаць, што тут Уладзімір Клішэвіч як бы перакрочыў усе межы магчымага. Асабліва ў тым месцы, дзе заявіў аб пахавальніку, які забівае цвікі ў яго труну.

Думаю, што галоўнай прычынай такой адчайнасці быў невыносны сум па радзіме, які паралізаваў усякую намярхоўнасць і разважнасць, падказваючы паэту экстрэмальныя акрэсленні і метафары. Слушнасць такіх думак пацвярджае яго верш „Родны край".

*Родны край! Як забыць пра раўніну,*
*Пра багатых палеткаў красу?*
*Як заўсёды, яны свайму сыну*
*Прывітанне з Радзімы нясуць.*
*Ціха гнецца на ветры калоссе,*
*Мяккі подых шуміць у траве.*
*Гэта музыку хвалі разносяць,*
*Плаўна радасці песня плыве.*
*Яе доўга працягвае рэха*
*У гадзіну вячэрняй пары.*
*Бестурботнаю песняй і смехам*
*Адгукнецца у ціхім бары.*
*Кожны дзень я трывожна згараю,*
*Памірыцца з жыццём не магу,*
*Толькі вы, успаміны аб краю,*
*Разганяеце ў сэрцы тугу.*

Верш гэты з'ўляецца канчатковым доказам на тое, што для паэта роднае але беднае было намнога прыгажэйшым, чым багатае але чужое, і што ён у ніякім выпадку не намерваўся задавальніцца хлебам надзённым, кіруючыся перад усім духоўнымі амбіцыямі.

Цяжка гаварыць, каб забыў ён аб побыце ў лагеры, аб страшэнным ваенным дасведчанні. Не можа быць, каб не даходзілі да яго весткі аб убогім жыцці ў пасляваеннай Беларусі, у тым і на яго роднай Случчыне. Аднак журба была мацнейшая за ўсё. І яна перамагла.

Уладзімір Клішэвіч быў у свой час адзіным беларускім пісьменнікам, які перамог усе боязі ды эміграцыйныя прадузятасці і паехаў у Савецкую Беларусь. Наведаў Мінск, які выклікаў у яго надзвычайныя ўражанні сваім будаўнічым размахам. Спадабалася яму і Случчына, якая нягледзячы на калгасны шаблон, зрабіла сур'ёзны крок наперад у аграрным развіцці.

Не магу толькі зразумець, чаму стан забітасці беларускай мовы і амаль поўная русіфікацыя краіны не перашкодзілі ў зараджэнні думкі аб вяртанні на радзіму назаўсёды.

Не мая аднак кампетэнцыя ў тым, каб асуджаць пісьменніка, павучаць яго і прымушаць да такіх ці іншых паставаў. Паэт слухае сэрца!

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# СКУПЫ ТОЛІК

Толік быў чалавек ашчадны. Амаль усе зaробленыя грошы клаў на кніжку. Не раз з-за гэтага былі дома спрэчкі з жонкай і сынамі.

— Што з тваіх гэтых грошай?! Трымаеш іх усе на кніжцы, а мне купіць трэба ўрэшце новае паліто! Сынам купіў бы матацыкл. Усе грошы запісаў на сябе, а як лічыць маю працу? — крычала жонка.

— Калі б я іх не запісаў на сябе, то іх усе ты разматала б!

— Тата, купі нам матор, — прасілі сыны. — Усе хлопцы ў вёсцы маюць...

— Што, каб самі пазабіваліся і пабілі машыну?! На такое грошай у мяне не будзе!

Толік шкадаваў нават сабе па-людску пад'есці ці апрануцца, усё клаў на кніжку. Не вытрымала такой сітуацыі жонка, не сцярпелі і сыны. Падаліся ў горад. Юля пачала працаваць на фабрыцы, зарабляла някепска. Сыны закончылі сярэднюю адукацыю, пайшлі вучыцца ва універсітэце, дасталі адказныя пасады. Калі хлопцы жаніліся, на вяселлі бацька не прыехаў — пашкадаваў грошай на падарункі.

Усё збіраў грошы, збіраў. Ужо ледзь ногі цягаў за сабой, але гроб грошы. Апамятаўся, калі на гарбе меў восемдзесят пяць.

— Назбіраў я, бачыце, сто мільёнаў, — хваліўся знаёмым.

— Ну і што з таго? Сто мільёнаў, калі інвеставаць у што сур'ёзнае, гэта не грош. А каб пражыць як-лень старому, многа ж не трэба!

— Вазьму я грошы і куплю долараў. Дам трохі сынам, можа і з Юляй памірыся, — рашыў Толік.

Паехаў у банк. Там палічылі ўсе працэнты, і атрымалася дзвесце мільёнаў. Толік выняў сто, палову памяняў на „зялёныя".

Не заўважыў стары, што за ім цікуюць бандыты. Ішлі за ім увесь час — і ў чыгуначнай зале чакання, і паехалі за ім на цягніку. Дадому меў толькі паўкіламетра. Пабілі Толіка і забралі ў яго ўсё, нават ашчадную кніжку.

Ледзь давалокся Толік дахаты. Пазваніў на паліцыю. Бандытаў не знайшлі.

Толік не можа даравваць сабе, што так марна страціў заробак усяго свайго жыцця. Плача, як малое дзіця.

**АЎРОРА**




Астроне, які ж страшны сон мне прысніўся! Быццам мой муж вярнуўся з работы дадому. Я глянула і страшэнна спужалася. Нага ў яго моцна пакалечаная, з вялікай ранай, але крыві няма. Я глянула ўверх. Бачу, на небе дзве птушкі. Яны ляцяць, але таксама моцна пакалечаныя. Адна менш, а з другой дык проста кавалкі мяса адвальваюцца! Што можа абазначаць такі сон?

Надзя

Перш адкажу табе, Надзя. Пацешыць цябе, на жаль, не магу. Бачыць параненага чалавека ў сне — так і чакай непрыемнасці. Іншая справа, калі бачыш параненым самога сябе. Тады спадзявайся багацця, прыбытку. Ты ў сваім сне бачыла мужа з пакалечанай нагой, а калі глянула ўверх, дык нават і птушкі, што ляцелі, былі пакалечаны. А глянь жа, птушкі, яны ж павінны прыносіць радасць. Твае птушкі, аднак, былі агідныя — з адной адвальваліся цэлыя кавалкі мяса. Ой, нешта прыкрае выйдзе замест спадзяванай радасці.

Астроне, мне снілася, што я знаходжуся ў сваёй роднай ваколіцы, на выгане недалёка хаты маіх бацькоў. Вясна, маквата, ходзім з адным пажылым навукоўцам, прафесарам (з якім мы задумалі разам у сапраўднасці адну вельмі важную і складаную справу і маем надзею яе рэалізаваць). Я саджу вельмі прыгожы малады дубок з лісточкамі, вышыні ўжо недзе на локаць, паліваю яго.

Марыля

Што датычыць твайго сну, Марыля, дык ён прадвяшчае добрае. Вёску сніць летам — радасць і задавальненне, зімой — смутак. Твая вёска была веснавая, калі ўсё расцвітала, а да таго ты садзіла малады дубочак, які ўжо выпускаў лісточкі, а дуб зялёны сніць — чакай багацця і прыемнага жыцця! (Сухі дуб прадвяшчае смутак, беднасць ці хваробу).

**АСТРОН**

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Як угнойваць трускалкі**

Угнойваць трускалкі трэба два разы: адзін раз да цвету, а другі — пры завязі ягад. Угнойваць трэба гнаявой жыжкай, разведзенай вадою, і ліць асцярожна вакол кусцікаў, каб не пападала яна ў сярэдзіну іх, адкуль выходзяць чаранкі лісця. Сабраўшы ягады, градкі з трускалкамі пільна ачысціць ад зелля і час ад часу адрываць вусы, а потым, на зіму пакрыць градкі перапрэўшым гноем або мохам ці саломаю.

Калі трускалкі дадуць пяць ураджаяў, яны павінны быць зменены маладымі.

**Як нішчыць мухі ў хлявах**

1. Добра праветрыць будынкі, а калі ў іх ёсць вокны — мазаць іх вапенным малаком з сінькаю.

2. Мазаць сцены вапнаю, крэалінам, палынам, газаю ці карболкаю.

3. Мухі кладуць свае яйкі, зародкі будучых мух. Для іх знішчэння гной пасыпаюць калійнымі парашкамі, асабліва ж каінітам.

**Пара збірання зёлак**

Найлепш збіраць лячэбныя зёлкі ў сонечны поўдзень, калі абсохне раса. Зёлкі, сабраныя з расою або пасля дажджу чарнеюць, трацяць свой колер і лёгка загніваюць.

Збіраюцца зёлкі толькі здаровыя, чыстыя. Заражаныя іржою і надта брудныя — старанна абмінаем.

Мыць зёлкі нельга, нават карэнні трэба паласкаць вельмі хутка, каб не нацягнулі вады, а пасля хутка высушыць.

**Аб паліванні вазонаў**

Паліваючы кветкі ў вазонах трэба памятаць, што найбольш вільгаці яны вымагаюць у перыяд ад 1 сакавіка да 1 верасня. Паліванне паступова змяншаць із надыходам пахмурных дзён, і зімы. Зімою паліваць як найменш. Мерай палівання мусіць быць сыпкасць зямлі.

У сонечныя дні летам ніводная расліна не любіць надта мокрай зямлі, „балота" ў вазоне.

Трэба ўважаць, каб расліна не вяла, бо гэта затрымлівае яе рост.

**Збірайце на зіму крапіву**

Крапіва — зімою вельмі добры корм для курэй. Па сваёй пажыўнасці яна не ўступае канюшыне і мясной муцэ. Крапіву трэба збіраць тады, калі яна цвіце, і высушыўшы — захаваць дзе-небудзь пад страхою.

Зімою курам даецца кашка з абшморгнутага лісця крапівы або мешань, запраўленая лісцём, як мукою — і куры ахвотна гэта ядуць.

**ЯСЕНЬ**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КРАКЕТЫ З СЫРУ І БУЛЬБЫ**

Прадукты:
*40 дэкаў бульбы,*
*40 дэкаў сыру,*
*1 яйка,*
*2 лыжкі мукі,*
*соль,*
*алей для смажання,*
*смятана для палівання.*

Вараную бульбу і сыр пракруціць праз мясарубку. Дадаць яйка, муку, соль па смаку. Добра перамяшаць, рабіць шарыкі дыяметрам каля 2 см. Кожны шарык мачаць у муку, тады зрабіць з яго ў руках тоўстую аладку і смажыць на добра разагрэтым алеі.

Падаваць са смятанай.

**ГАСПАДЫНЯ**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. паказвае шлях караблям, 8. падарак маладой ад бацькоў, 9. моцны вецер, 10. прэснаводная рыба, 11. прадукт, 13. прыбор, 15. тэкст перакладзены з адной мовы на другую, 16. яўрэйскае згуртаванне, 20. штат у ЗША, 22. горад з Беларускім музеем, 23. жанчына пасля смерці мужа, 27. жонка каваля, 29. тоўстае бервяно, 30. задор, захапленне, 31. прадметы (мн. л.), 32. між Ваўкавыскам і Слонімам, 33. вялікі польскі горад, 34. ліставое дрэва.

**Вертыкальна:** 1. пасудзіна для адкорму жывёлы, 2. мэбля для сядзення і ляжання, 4. булачны выраб у форме кольца, 5. пукаты дах, 6. геаграфічны напрамак, 7. вялікі празаічны твор, 12. абласны горад на захадзе Расеі, 14. пустое, паказное мерапрыемства, 16. азёрны чарот, 17. іспанскі мастак (1746—1828), 18. акружнасць, 19. там прымаюць і выдаюць грошы, 21. невялікая цэркаўка без алтара, 24. права на што-небудзь, 25. італьянскі кампазітар (1813—1901), 26. усходнеазіяцкая дзяржава, 27. рэвальвер асобай сістэмы, 28. старарускі ваяр скандынаўскага паходжання.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 20 н-ра:**

**Гарызантальна:** упор, Шагал, аматар, град, Аракс, Эліста, Амазонія, Варна, вадкасць, гаспадар, Літва, Рузвельт, гітара, Науру, кола, даміно, Вілія, нага.

**Вертыкальна:** даярка, капкан, Поразава, Радэн, манія, Масты, смалакур, Лінкальн, вага, Русь, асот, цьма, археолаг, Італія, вернік, Кітай, рабін, закон.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**куга** — водная расліна.

# ДВА ХАРАКТАРЫ

Міра Лукша вельмі трапна апісала, з жывога кораня ўзяўшы, гісторыю „На сваім". Паказала два людскія характары. Нейкая бабулька з падбельскага хутара расказвае гісторыю сваіх найбліжэйшых суседзяў. Канвай ёсць адносіны дабра і нянавісці. Дзяўчына, якой цяжкае жыццё ў здэмаралізаванай сям'і не знішчыла ласкавасці, дабрыні і пашаны да людзей, трапіла ў сям'ю, дзе чакаў яе добры і спагадлівы муж і хворая ад нянавісці свякруха. Маладзіца перамагла ўсе цяжкасці і гора, утрымала сям'ю, не забывалася і на грамадскія справы. Гэта і метафара, і яркі вобраз пераходу пакаленняў: людзей прагавітых, грабучых да сябе змяняюць тыя, хто ўмее аддаць сябе іншым, прабачыць зло, стварыць жыццё лепшым.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**






**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

renumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

P 4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




*ВІНЦУК ПУГАЧ*

**РАМАН МНЕ ЗДРАДЗІЎ**

*Раман падобны быў на соты,*
*З якіх паелі пчолы мёд,*
*І крочыў у падзертых ботах,*
*І млявы быў яго ход...*
*...Цяпер адна хаджу ў кіно.*
*СВЯТЛАНА ЯВАР*

Раман быў поўны, нібы соты,
Дзе трутні берагуць свой мёд.
На ім бліш чэлі вабна боты.
Аж з зайздрасці дурэў народ.
Ён не хадзіў, ён проста лётаў,
Насіў мяне ў кіно штодня.
Ніхто ім болей не валодаў,
А толькі я, а толькі я.
Але ў мінулы панядзелак
Ён да мяне не прыляцеў.
Я зразумела: ён да дзевак
Пайшоў, іх ласкі захацеў.
А сёння да мяне, да кралі,
Стаў прыліпаць якісь балван.
І ўсе наўкола закрычалі:
— Глядзі, а гэта твой Раман!
Раман падобны быў на соты,
З якіх паелі пчолы мёд,
І крочыў у падзертых ботах,
І млявы быў яго ход.
І я Раману ўсё сказала,
Бо ён мне атруціў душу,
І пасвіць пчол яго паслала.
Цяпер адна ў кіно хаджу.







*Мал. Л. Разладава*

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

**ХТО ЯК ПІША**

На адной з творчых сустрэч, прадстаўляючы Валодзю Гніламёдава, я сказаў:

— Гэта наш добры крытык.

— Пішу я не так ужо і добра, — пракаменціраваў Валодзя і пасля паўзы дадаў: — Але пакуль што не бачу, каб хто пісаў лепш.

**ЯКІ ВЫГЛЯД У ПІСЬМЕННІКАЎ...**

Алесь Ставер павёз на сваёй машыне групу пісьменнікаў у Лідскі раён. Надвячоркам прыехалі ў вясковы клуб. Заўсёды акуратны, у капелюшы, Ставер і тут праявіў прадбачлівасць у працы: праводзіў калег у клуб, а сам, пакуль не сцямнела, вярнуўся да машыны, каб агледзець яе, нешта падкруціў у маторы, падмёў у салоне, выцер чыстым ручніком рукі, а тады накіраваўся ў клуб. Убаку спыніліся дзве жанчыны. Адна з іх кажа:

— Ты бачыш, які культурны ў пісьменнікаў шафёр — і пры капелюшы. А ты ўяўляеш, які ж тады выглядаюць самі пісьменнікі!

**ІСТОТНАЯ ПАПРАЎКА**

Праводзілі на пенсію акадэміка-сакратара аддзялення грамадскіх навук Беларускай Акадэміі Мікалая Васільевіча Бірылу. У сваім выступленні Іван Якаўлевіч Навуменка, тады віцэ-прэзідэнт Акадэміі, звярнуў увагу прысутных:

— Мы ніколі з ім не лаяліся.

Мікалай Васільевіч удакладніў:

— Гэта праўда, мы не лаяліся. Вы мяне лаялі.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**

## СЕНТЭНЦЫІ

Згода — гэта сплеценыя думкі ў адну касу.

* * *

Эвалюцыя — гэта высечаныя Прыродай форма і змест у глыбе жыцця.

* * *

Ачмурэнне — гэта блукаючы нерв віляючага языка.

**БАРЫС РУСКО**

## Карысныя парады „Вожыка"

Не вылівайце ваду, у якой мылі мяса. Згатуйце суп.

* * *

Каб ніколі не балелі вашыя ногі, не купляйце новы абутак.

* * *

Каб ведаць, што ты сабой уяўляеш, калі спіш, то стань перад люстэркам з заплюшчанымі вачамі.

* * *

Пастарайся памерці маладым, але як можна пазней.

* * *

Не наступай на пяткі таму, хто ідзе за табою ўслед.

## ЁСЦЬ МАТЧЫНА ЛЮБОЎ

*Музыка Змітрака Яўтуховіча*
*Верш Юрася Свіркі*




Ёсць матчына любоў,
Яе не зблытай
З ніякай, бо няма нідзе такой —
Пяшчотнай, бескарыслівай, адкрытай.
Шчаслівы ты, пакуль яна з табой.

Ёсць матчына любоў.
Яна спрадвеку
Была, як спадарожніца жыцця.
Ці прыгажун ты будзеш, ці калека —
Ты для яе — любімае дзіця.

*Прыпеў:*
Ёсць матчына любоў.
Яна нам свеціць у далёкай старане.
І колькі б я ні жыў на гэтым свеце,
Любі адною — матчынай! — мяне. } 2 р.

Ёсць матчына любоў.
Яна умее
Сваіх дзяцей на подзвіг бласлаўляць,
І на вяртанне берагчы надзею,
І не стамляцца ўсё жыццё чакаць.

*Прыпеў:* 2 р.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

— Навошта ў праграму ўключылі вы яшчэ і танцы, хіба не досыць таго, што я свае вершы прачытаю? — здзіўляецца паэт з Літаб'яднання „Белавежа".

— Але ж і для публікі трэба зрабіць нешта прыемнае, — адказвае загадчык клуба.

* * *

У перапоўненым аўтобусе, з Бельска-Падляшскага ў Гайнаўку (які замяшчае нядаўна ліквідаваны цягнік) Гапка ўжо хвілін пяць бурчыць: то ёй нехта на нагу наступіў, то яе штурхнулі, то яшчэ нешта не так.

— Ды досыць ужо вам сквірчэць! — не вытрымаў урэшце адзін з пасажыраў.

— Як гэта „сквірчэць"? — абурылася Гапка. — Што я вам, выскварка? Ці, можа, сала на патэльні?.. Спадары, — закрычала яна на ўвесь аўтобус, — будзьце сведкамі, ён мяне свіннёю абазваў!..

**Падборку зрабіў**
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**




Дарагое Сэрцайка! Ніколі я не думала, што лёс выкіне мне такі нумар.

Марыла я пра гэтага хлопца нават тады, калі была ўжо з іншым. Так падабаўся ён мне!

Пазнаёміліся мы на школьнай забаве. Я была вучаніцай другога класа, а ён ужо быў студэнтам. Прыйшоў разам з малодшым братам, які вучыўся ў адным класе са мной.

Хлопец быў высокі і прыгожы, а найважнейшае — што ўсё-ўсё ведаў. Як ён хораша гаварыў, які быў начытаны! Запаланіў маё сэрца поўнасцю. Я пакахала яго (і не саромелася сама перад сабой у гэтым прызнацца) першым дзявочым каханнем. Марыла пра яго, сніўся мне па начах. Часта прыходзіў да мяне, але заўсёды з братам. Мы ўсюды хадзілі разам, я была шчаслівая.

Даражэнькае! Гэты хлопец мяне нават не пацалаваў, але я адчувала, што і ён кахае мяне. Зрабіў гэта толькі на развітанне, бо здарылася так, што ўся яго сям'я пераязджала ў Шчэцін, і яго таксама перавялі ў тамашнюю палітэхніку. Праўду сказаўшы, я нават не адчувала, што ён выехаў. Так жа часта, як наведваў мяне ў Беластоку, ён пісаў мне чуллівыя лісты. Было ў іх шмат цяпла і зычлівасці, а аднойчы і... прызнанне ў каханні.

І так мы пісалі пісьмы адно да другога мо гады два. Пасля справа прыціхла, бо ў маім жыцці паявіўся іншы, больш „спелы" мужчына, пасля — яшчэ хтось іншы. І так памалу жыццё брала верх, але той першы назаўсёды застаўся ў сэрцы. Часамі я марыла пра тое, што некалі сустрэнемся і будзе нам міла, як калісь. Фактычна чакала я нечага такога, што тады не споўнілася. Уяўляла сабе цялесную блізкасць з ім, як нешта незвычайнае, як кажуць, няземскае.

Я ўжо заканчвала вышэйшую школу і спазнала крыху мужчын, калі ізноў на маім гарызонце паявіўся той першы хлопец. Сяброўка паведаміла мне, што прыехаў ён у Беласток як прадстаўнік нейкай шчэцінскай фірмы, каб арганізаваць тут яе філію. Ёсць надзея, што будзе тут працаваць пастаянна.

Не думаючы пра тое, што тыдзень ужо сядзеў у Беластоку, а дагэтуль не адазваўся да мяне, я пазваніла яму ў гатэль. Вельмі ўцешыўся! Дамовіліся сустрэцца адразу ж.

Сустрэча была даволі дзіўная. Упершыню ж сустрэліся мы як дарослыя людзі. Я ўся дрыжэла. Ён выглядаў цудоўна і быў даволі спакойны. Накупіў усялякага смакоцця і віна. Мне здавалася, што будзе гэта найлепшы дзень у маім жыцці. Усё ж здараюцца цуды, думалася мне, калі я ішла на сустрэчу. Я планавала ўжо, што мы будзем рабіць, калі будзем разам, бачыла яго ў думках маім мужам.

Рэчаіснасць аказалася вельмі брутальная. Можна сказаць, занадта „дарослая". Ну, выпілі, з'елі крыху тых смакоццяў. Тады мой найдаражэйшы распрануўся і загадаў распрануцца мне. Мы леглі ў пасцель. Я думала, што ён, засумаваўшы па мне, як і я па ім, будзе мяне ласкаць і цалаваць, будзе ўпойвацца сваёй колішняй дзяўчынай. А ён... проста сорам і казаць табе. Прылёг на мяне, падсунуўся вышэй і даў мне кахаць яго „па-фанцузску". Я думала, што пасля ён сыйдзе ніжэй і будзе ўсё цудоўна. А ён ніжэй — патрактаваў мяне вялікім пальцам нагі. І ў такой пазіцыі праз пяць мінут усё было закончана.

Мне было сорамна і горка, што ён так аднёсся да мяне. Пасля ўсяго ён ускочыў пад душ і неўзабаве сказаў, што яму трэба выйсці. Я хуценька сабралася і са слязьмі ў вачах выйшла. Больш не прабавала сустрэцца з ім, ён таксама не адзываўся. Проста не ведаю, што і думаць пра яго...

**ЛЕНА**

Леначка, даражэнькая! Па-першае, час не толькі лечыць нашы раны, але нярaз робіць і спусташэнне ў душы. Вы столькі гадоў не бачыліся і ты хочаш, каб ён да цябе палаў агнём кахання?! А мо ў яго нехта ёсць?! А мо і напэўна.

А зрэшты, мо ён такі і быў у пасцелі, ты ж раней яго не ведала. Іншая справа, што бачыла ты, бадай, цікавейшых хлопцаў. Мо ён інакш не ўмеў, бо не адчуваў бы раскошы, а ты палічыла гэта за пагарду да цябе. Але і так выказаў, што не рвецца да цябе, пазбываючыся цябе занадта хутка.

Даруй сабе гэтага хлопца і не вяртайся больш да мінулага.

**СЭРЦАЙКА**